


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!


Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

20 лістапада 2020 года №47 (1334)

18+




# Уводзяць масачны рэжым


старонкі 2 і 24


**На гэтым тыдні масачны рэжым увялі па ўсёй Беларусі. А вы ходзіце ў масцы?**

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## На Вілейшчыне, каля Уладыкаў, археолагі знайшлі кулі паўстання 1863 года


старонка 17


## Як былы школьны работнік змяніў прафесію


старонка 20





ISSN 1991–7155





Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## Уводзяць масачны рэжым

**На гэтым тыдні масачны рэжым уводзяць ва ўсім рэгіёне.**

Ад 16 лістапада на такі рэжым перайшлі Маладзечанскі, Вілейскі, Валожынскі, Мядзельскі і Смаргонскі раёны, ад 18 – Астравецкі і Ашмянскі.

Рашэнне аб масачным рэжыме на Міншчыне прыняў Мінаблвыканкам. У вобласці абмежавалі правядзенне спартыўных, культурных, відовішчных, навуковых, рэлігійных і іншых масавых мерапрыемстваў.

Пра рэжым на Смаргоншчыне паведамляюць у райвыканкаме. Адзначаюць, што трэба выкарыстоўваць маскі пры наведванні аб'ектаў і арганізацый усіх формаў уласнасці – грамадскі транспарт, крамы, гандлёвыя цэнтры, аб'екты грамадскага харчавання, аптэкі, установы аховы здароўя, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні банкаў, сувязі, пошты, аб'екты бытавога абслугоўвання, установы культуры, грамадскі транспарт, таксі і інш., дзе цяжка альбо немагчыма забяспечыць сацыяльнае дыстанцыяванне.

Пра масачны рэжым на ўсёй Гродзеншчыне паведаміў старшыня аблвыканкама **Уладзімір Каранік.**

Цяпер выкарыстоўваць сродкі індывідуальнай абароны ў Мінскай і Гродзенскай абласцях павінны ва ўсіх без выключэння аб'ектах любой формы ўласнасці: аптэках, крамах, кафэ, у грамадскім транспарце, маршрутках, таксі.

Штрафаваць за адсутнасць маскі пакуль не будуць, аднак адказнасць за людзей будуць несці кіраўнікі арганізацый.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Марыі ТАНАНЫ.

У вёсцы Капачы Маладзечанскага раёна.

# Абралі пераможцаў фотаакцыі «Не губляй ніводнага дня»

**17 лістапада рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» падсумавала фотаакцыю «Не губляй ніводнага дня».**

Чытачы абіралі пераможцу ў намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый». Па выніках галасавання перамагла Марыя Танана з Маладзечна.

На пасяджэнні рэдакцыі мы абралі пераможцу акцыі. Гэта фотаздымак, які ўпрыгожыць фірменны каляндар газеты на 2021 год.

**По рашэнні рэдакцыі – здымак удзельніцы №7, гэта таксама Марыя Танана.**

Фота Марыі зроблене ў вёсцы Капачы Маладзечанскага раёна. Вось які верш дадала ўдзельніца да апісання здымка:

*Быў цёплы майскі дзень,*
*І вецер станавіўся*
*ўсё мацней.*
*Мы вырашылі запусціць*
*у паветра змея,*
*Для добрага настрою*
*і задавальнення!*

– Я вельмі люблю сваю вёску, усю цёплую пару года праводжу тут, – напісала ўдзельніца акцыі. – Мяне натхняе прырода, яна з'яўляецца крыніцай маёй жыццёвай энергіі. Часта падарожнічаем усёй сям'ёй па Беларусі і знаходзім новыя і цікавыя месцы.

Рэдакцыя ў гэтым годзе таксама ацэньвала ўдзельнікаў у межах намінацыі «Гісторыя фотаздымка». Мы вырашылі адзначыць у гэтай намінацыі сямейнае фота ўдзельніка №4 **Яўгена Беркутава**. Вось як ён апісаў здымак: «Фотаздымак зроблены ў парку Перамогі ў Маладзечне вечарам 9 жніўня, у дзень выбараў прэзідэнта. Да закрыцця выбарчых участкаў заставалася крыху больш за гадзіну. Гэта быў апошні дзень, калі нам усім было так весела і бесклапотна».

Мы вельмі ўдзячныя ўдзельнікам акцыі за дасланыя цёплыя фота.

**Спадзяёмся, у наступным годзе фотаакцыя аб'яднае сёлетніх удзельнікаў зноў!**

Фота ўсіх удзельнікаў можна паглядзець на сайце **rh.by.**

**Аддзел інфармацыі.**



Фота pixabay.com.

У тым, што знікае вада ў калодзежах, вінаваты клімат.

# Чаму ў рэгіёне знікае вада ў калодзежах

**Чытачы з розных раёнаў паведамляюць нам пра тое, што апошнім часам знікае вада ў калодзежах. Такія паведамленні былі з Вілейскага, Валожынскага, Смаргонскага раёнаў. Чаму так адбываецца і чаго чакаць далей?**

З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да начальніка аддзела маніторынгу і дзяржаўнага воднага кадастра Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў **Уладзіміра Карнеева**.

**По словах спецыяліста, прычына знікнення вады ў калодзежах – у змене клімату, ад чаго зніжаецца сцёк рэк.**

Ужо ад 1962 года і да сёння ўзровень рэк панізіўся на 10-15 працэнтаў. А паколькі паверхневыя воды звязаныя з грунтавымі, паніжаецца ўзровень вады ў калодзежах.

– Сумна, што і прагнозы нічога добрага не даюць. Да 2035 года будзе назірацца далейшае зніжэнне сцёку. Канешне, працэс будзе ісці нераўнамерна.

**Магчыма, зімой сцёк будзе большы з-за снегу і дажджоў. Але вясной паводкі сталі куды меншымі, а летам і ўвогуле мала вады.**

Атрымліваецца, вясной рэкі і пойменныя тэрыторыі не атрымліваюць дастатковай колькасці вады. І нават дажджлівае лета не папаўняе яе запасы.

Найбольш спрыяльнай і стабільнай для грунтавых вод пакуль застаецца восень, і асабліва другая яе палова, заўважыў Уладзімір Мікалаевіч.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Ад 1 снежня не забудзьцеся паставіць на аўто зімовы шыны

**Ад 1 снежня да 1 сакавіка, згодна з пунктам 207-1 Правілаў дарожнага руху, аўтамабіль павінны быць абсталяваны зімовымі шынамі.**

Правіла датычыцца машын з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да трох з паловай тон уключна, легкавых і грузапасажырскіх аўтамабіляў з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай звыш трох з паловай тон, а таксама аўтобусаў з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да пяці тон. Адказнасць за невыкарыстанне зімовых шын прадугледжаная часткай 5 артыкула 18.22 КаАП Рэспублікі

Згодна з Правіламі дарожнага руху, зімовыя шыны прызначаныя для эксплуатацыі на абледзянелай ці заснежанай дарозе. Яны маркіруюцца знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі са сняжынкай альбо знакамі «M+S», «M&S», «M.S», «M S» або «All seasons».

**Падчас эксплуатацыі на паказаным пакрыцці такія шыны маюць рэшткавую вышыню малюнка пратэктара менш за 4 міліметры.**

Калі на машыне ўстаноўленыя зімовыя шыны, але рэштковая вышыня малюнка пратэктара складае менш за 4 міліметры, адказнасць наступае па часткі 3 артыкула 18.12 КаАП – кіраванне транспартнымі сродкамі, якія маюць нясправуднасці. Тады вінаваты атрымае папярэджанне або штраф да адной базавай велічыні – 27 рублёў.

Калі такое здараецца паўторна на працягу аднаго года, парушэнні кваліфікуюцца паводле часткі 9 артыкула 18.12 КаАП і цягнуць штраф ад 54 да 135 рублёў.

Для прычэпаў устанаўліваюцца нормы рэшткавай вышыні малюнка пратэктара шын, аналагічныя нормам для шын аўтамабіляў, у счэпцы з якімі яны выкарыстоўваюцца.

Шына лічыцца непрыдатнай да эксплуатацыі, калі з'явіўся адзін індыкатар зносу, размешчаны па дне канаўкі пратэктара, пры раўнамерным зносе або два індыкатары ў кожным з дзвюх частак – пры нераўнамерным зносе бегавой дарожкі.

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**62**

столькі дактароў навук працавала на Міншчыне ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.11 | 19.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5551 | 2.5528 |
| Еўра | 3.0184 | 3.0319 |
| Злоты, 10 | 6.7186 | 6.7835 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3546 | 3.3610 |
| Грыўня, 100 | 9.0745 | 9.0737 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 11.11 | 18.11 |
| Еўра | 2.9700/3.0700 | 2.9800/3.0800 |
| Долар ЗША | 2.5100/2.5900 | 2.5000/2.5900 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 11.11 | 18.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,88 | 19,88 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,78 | 7,78 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | 4,90 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | 17,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,50 | 3,50 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | 5,50 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,90 | 2,10 |
| Агуркі, 1 кг | 3,00 | 3,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 2,50 | 2,90 |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | 0,45 |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | 0,70 |
| Капуста, 1 кг | 0,40 | 0,35 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,60 | 1,80 |
| Морква, 1 кг | 0,75 | 0,80 |
| Памідоры, 1 кг | 2,00 | 2,90 |
| Перац, 1 кг | 3,50 | 4,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | 5,90 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | 5,30 |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | 2,60 |
| Вінаград, 1 кг | 4,10 | 4,50 |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | 4,90 |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Лімон, 1 кг | 4,00 | 3,90 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | – |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | 3,30 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | 1,80 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Масла, 1 кг | 17,00 | 17,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

## Работнікі МНС вызвалілі кацяня з маторнага адсека

**СМАРГОНЬ**

10 лістапада на 101 патэлефанавала жыхарка Смаргоні. Пад капот яе аўтамабіля залезла кацяня.

Байцы МНС правялі ратавальную аперацыю, каб не нашкодзіць жывёле і не пашкодзіць аўто.

Пасля агляду ў ветэрынара, выратаванае кацяня перадалі гаспадыні аўтамабіля – тая вырашыла яго забраць сабе.

**Паводле сайта МНС.**

## У лесе знайшлі плантацыю канопляў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каля вёскі Верадова Маладзечанскага раёна супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі знайшлі міні-плантацыю канопляў.

У ходзе агляду мясцовасці правааховікі знайшлі два кусты нарказмяшчальнай расліны, а таксама сем укапаных у зямлю вёдраў, у якіх, як мяркуецца, вырошчвалі зелле. Расліна ў сваім складзе ўтрымлівае асаблівa небяспечнае псіхатропнае рэчыва, што з'яўляецца наркатычным сродкам – марыхуанай. Байцы наркакантролю знайшлі больш за 130 грамаў зелля, пасевы канопляў знішчылі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Грузавік знёс ліхтар на пешаходнай вуліцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

ДТЗ адбылося 16 лістапада на пешаходнай вуліцы Прытыцкага, якую маладзечанцы называюць Брадвеем.

– Каля 11 гадзін 52-гадовы кіроўца, жыхар Мінска, прывёз тавар. Разгрузіцца яшчэ не паспеў, пачаў рухацца заднім ходам, не заўважыў ліхтар і збіў яго, – расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З машыны скралі акумулятар і музычныя калонкі

**ВІЛЕЙКА**

Пра крадзеж, што здарыўся на Вілейшчыне днямі, расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў:**

– 10 лістапада, каля 13 гадзін, у міліцыю звярнулася жыхарка вёскі Селішча і сказала, што з яе аўтамабіля знік акумулятар. Калі міліцыянеры прыехалі на месца, даведаліся, што машына ўвесь час знаходзілася каля дома, у Селішчы, на вуліцы Садовай. Гаспадары не турбаваліся пра тое, каб замкнуць дзверы аўтамабіля. Яны ўвесь час былі незамкнутыя. А ключ знаходзіўся ў замку запальвання.

Па словах Мікалая Мягкова, 10 лістапада гаспадыня машыны заўважыла, што знік ключ запальвання. Пры больш дэталёвым аглядзе стала вядома, што ў маторным адсеку няма акумулятара, а ў салоне – музычных калонак. Шкоду ацэньваюць у 115 рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса. Міліцыя шукае таго, хто мог здзейсніць злачынства.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пайшоў выкінуць смецце і не вярнуўся

**ВІЛЕЙКА**

Вілейскі РАУС шукае зніклага без звестак жыхара Даўгінава, 19-гадовага **Віталя Пратасевіча**.

Хлопец – ураджэнец Вілейкі, мае інваліднасць другой групы па псіхічным захворванні, жыве разам з маці ў Даўгінаве. 15 лістапада пасля гадзіны дня ён выйшаў вынесці смецце і знік.

**Прыкметы:** На выгляд 17-19 год, рост 160-170 сантыметраў, худы, з авальным бледным тварам, блакітныя вочы, прамы нос, цёмныя прамыя валасы, стрыжаныя коратка. Гаворка зразумелая, голас звонкі, памер абутку – 40-41.

**Асобая прыкмета:** Увесь час варушыць языком у роце.

Быў апрануты ў чорную цёплую куртку на маланцы, парваную на локці, сінюю спартыўную кофту, камуфляжны пінжак, чорныя штаны і цёмную майку, светлую ніжнюю бялізну. На галаве была цёмная шапка.

З сабой меў пашпарт, пасведчанне інваліда. Шкодных звычак не мае.

Калі вам вядома пра месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на нумары: **(01771) 5-26-02, (029) 380-82-28** або **102.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота drive2.ru

Аварыя здарылася раніцай, калі над дарогай слаўся густы туман.

# У аварыі пацярпела шэсць машын

**Аварыя здарылася 11 лістапада, каля 7:35, у Вілейскім раёне на трасе Мінск-Нарач, недалёка ад першага чыгуначнага пераезда на шляху з Маладзечна ў Вілейку. У выніку пацярпела шэсць машын. Падрабязнасці расказалі ў Вілейскай ДАІ.**

**ВІЛЕЙКА**

У бок Вілейкі з боку Маладзечна ехала пяць машын – грузавы фургон, «Фольксваген-Пола», «Сітраэн», «Опель-Вектра» і «Фольксваген-Транспарцёр». Кіроўца аўто «Опель-Вектра», які ехаў чацвертым у калоне, вырашыў абагнаць тры папярэднія аўтамабілі. Перастроіўся на сустрэчку і пачаў абганяць. У нейкі момант з тумана выехаў сустрэчны аўтамабіль «Рэно-Лагуна». Кіроўца «Рэно» спрабаваў пазбегнуць сутыкнення, але ўсё ж сутыкнуўся з «Опелем». Ад удару «Опель» з'ехаў у кювет і перакуліўся на дах.

Ад абломкаў і запчастак, якія паляцелі пры сутыкненні дзвюх машын, атрымаў механічныя пашкоджанні «Фольксваген-Пола».

А яшчэ падчас сутыкнення ў «Опелі-Вектра» адарвалася задняе левае кола і паляцела пад «Фольксваген-Транспарцёр» і перабіла яму тармазную сістэму. У выніку «Транспарцёр» стукнуўся ў «Сітраэн», які быў спераду.

Калі нарэшце ўсе машыны спыніліся, на дарозе з'явілася «Пежо-206». Аўтамабіль наехаў на абломак ад літага дыска, што застаўся на дарозе пасля аварыі, і пашкодзіў бампер.

Людзі не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Праз мяжу з Літвы ў Беларусь незаконна перавозілі спорттавары

**АШМЯНЫ**

Супрацоўнікі аператыўнай мытні ў Каменным Логу спынілі незаконны ўвоз на тэрыторыю Беларусі буйной партыі тавараў для спорту вядомых аўстрыйскіх, французскіх, італьянскіх і нямецкіх вытворцаў.

Грузавы аўтамабіль DAF ехаў з Літвы транзітам праз Беларусь. У грузавым адсеку грузавіка, які прыбыў у Каменны Лог, было больш за сем тысяч спартыўных тавараў: лыж, сноўбордаў, гарналыжных шлемаў, чаравікаў і іншай спартыўнай экіпіроўкі. Агульная вага тавараў складала 10,5 тоны.

– Кіроўца вялікагруза паказаў мытнікам дакументы, якія змяшчаюць недакладныя звесткі пра кошт тавару. Устаноўлена, што заяўлены кошт прыніжаны ў сем разоў, што, адпаведна, істотна адбілася б на памяншэнні сумы, якая падлягае да выплаты мытных плацяжоў, – адзначылі ў ДМК.

Ацэначны кошт спартыўных тавараў па факце склаў больш за 830 тысяч рублёў.

Аператыўная мытня пачала адміністрацыйны працэс у адпаведнасці з часткай 3 артыкула 14.5 (падача мытнаму органу недакладных звестак) КаАП, санкцыя якой прадугледжвае штраф у памеры да 30% ад кошту тавараў.

**Паводле БелТА.**

## Працягваецца акцыя «Не прапальвай сваё жыццё»

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 2 да 30 лістапада ў Маладзечанскім раёне праходзіць рэспубліканская акцыя «Не прапальвай сваё жыццё!».

Яе мэта – папярэдзіць пажары і гібель людзей ад іх па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні. А таксама інфармаваць насельніцтва аб асноўных прычынах узнікнення пажараў, прафілактыка іх узнікнення, прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы пажараў, якія ўзнікаюць з-за неасцярожнага курэння ў стане алкагольнага ап'янення.

Акцыю ладзяць у некалькі этапаў. Два этапы ўжо прайшлі. Падчас першага ладзілі мерапрыемствы ў грамадскім транспарце, на прыпынках, падчас другога – на прамысловых прадпрыемствах і ў арганізацыях, у пунктах грамадскага харчавання.

3 этап – 16-20 лістапада – мерапрыемства ў рамках акцыі пройдзе ў Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы;

4 этап – 23-27, 30 лістапада – акцыя пройдзе на ўніверсальным рынку «Спадарожнік». Кожны ахвотны зможа ўзяць удзел у конкурсах і віктарынах на пажарную тэматыку. За правільныя адказы вас чакаюць прызы.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

## На аўтадарозе затрымалі нецвярозага жыхара Радашкавічаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

4 лістапада каля васьмі вечара паблізу вёскі Глушаны Мінскага раёна падчас рэйду супрацоўнікі ДАІ на праезнай частцы дарогі ўбачылі мужчыну з прыкметамі алкагольнага ап'янення.

У цёмны час сутак мужчына не пазначыў сябе флікерам. Побач з ім быў сабака, які правodзіў у пачуцці свайго гаспадара.

Падчас дыялогу з інспектарамі 51-гадовы жыхар Радашкавічаў не змог устаць, толькі неразборліва адказаў і прапоўз. Вынік агляду паказаў – 1,9 праміле. Мужчыну разам з сабакам міліцыянеры даставілі дадому.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Дайджэст: смерць Бандарэнкі, новы прэзідэнт у Малдове

## «Рэгіянальная газета» расказвае пра галоўныя падзеі ў Беларусі і свеце

### Загінуў Раман Бандарэнка

12 лістапада загінуў **Раман Бандарэнка**. Мінчука прывезлі ў бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі ў стане комы з РУУС Цэнтральнага раёна.

Увечары 11 лістапада невядомыя прыехалі зразаць белыя і чырвоныя стужкі на «плошчу Перамен» у Мінску. Адзін з іх штурхнуў Бандарэнку, а потым заламаў рукі, і мужчыну аднеслі ў мікрааўтобус.

МУС апублікавала прэс-рэліз, згодна з якім назвала падзеі дваровым канфліктам паміж людзьмі, што вешаюць незарэгістраваную сімволіку, і неабыякавымі грамадзянамі, што гэту сімволіку здымаюць. Следчы камітэт заявіў, што Раман Бандарэнка быў п'яны падчас сутычкі. Дактары бальніцы на ўмовах ананімнасці прыслалі TUT.BY і Onliner.by здымкі дакументаў агляду Бандарэнкі – згодна з імі, ён быў цвярозы.

**Аляксандр Лукашэнка** распарадзіўся аддаць справу Генеральнай пракуратуры пасля стыхійных акцый 13 лістапада па ўсёй Беларусі. Лукашэнка таксама заявіў, што Бандарэнка быў п'яны.

Пасля смерці Бандарэнкі ў Беларусі прайшлі стыхійныя жалобныя акцыі, а ў нядзелю – шэсці. У Мінску падчас нядзельнай акцыі затрымалі больш за 1000 чалавек.

Аддзел інфармацыі.

### У Беларусі можа адбыцца рэкордная інфляцыя

У кастрычніку гадавая інфляцыя разагналася да 6,2%. Прыкметна выраслі цэны на імпарт, у тым ліку на алей, крупы, электратавары, мыйныя сродкі.

Пры гэтым інфляцыя па выніках года можа стаць рэкордна высокай як мінімум за апошнія чатыры гады. Ва ўрадзе ўжо прапанавалі лічыць аднaзначную лічбу (гэта значыць, да 10%) нядрэнным вынікам.

Пры гэтым прагноз уладаў быў – не больш за 5%.

TUT.BY.



Такі мемарыял у памяць пра Рамана Бандарэнку з'явіўся ў Маладзечне.

Фота Насссі УТКІНАЙ.

### У Малдове новы прэзідэнт

На выбарах у Малдове перамагла праеўрапейскі кандыдат **Мая Санду**. Яна перамагла ў другім туры выбараў прарасійскага кандыдата **Ігара Дадона**.

Мая Санду – эканаміст, рэфармавала адукацыю ў Малдове, падтрымлівае еўрапейскую інтэграцыю. Яна з'яўляецца лідарам партыі, якую сама стварыла.

Паводле rbc.ru.

# Хлеб і кексы ўзялі Гран-пры і залатыя медалі

## А вы ўжо пакаштавалі пераможцаў ад Маладзечанскага хлебазавода?

МАЛАДЗЕЧНА

**Хлеб з семечкамі і часнаком, шыкоўныя караваі да вяселля, тарты да ўрачыстых дат, салодкія рулеты і кексы, печыва, пірожныя і нават дыетычныя мучныя вырабы.**

Ці не кожны з маладзечанцаў і жыхароў суседніх гарадоў добра знаёмы з прадуктамі Маладзечанскага хлебазавода. Больш за тое, вырабы гэтага прадпрыемства вядомыя ва ўсёй Беларусі і нават на міжнародным узроўні.

> Доказ гэтаму – рэгулярныя перамогі прадукцыі прадпрыемства на шматлікіх прэстыжных конкурсах.

Не стаў выключэннем і гэты год. Перамогамі маладзечанскіх хлебапёкаў і кандытараў парадаваў удзел у штогадовым рэспубліканскім аглядзе якасці хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў «Смакота-2020» і ў 26 Міжнароднай аптовай спецыялізаванай выставе-кірмашы «ПрадЭкспа».

### Знаёмцеся з прадуктамі-пераможцамі

На «Смакоце» залатыя медалі атрымалі хлеб «Маладзечанскі сітны», барадзінскі асобы фармавы, «Льняное семечка» і «Хутарок» зерневы, абедзенны, а таксама кекс «Сталічны новы», рулет «Фестывальны», тарты «Барскі пачастунак», «Знатны» з вішняй і «Чароўнае семечка».

Хлеб «Маладзечанскі падарунак» і «Мамін выбар», пірожныя «Ачаравашка» і «Клеа», чызкейк макавы і торт «Ад Ксюшы» ўзялі Гран-пры 1 ступені.

З «ПрадЭкспа» залатыя медалі прывезлі за кекс «Сталічны новы» і торт «Ленінградскі», а Гран-пры ўзялі салодкія рулеты «Лімонны», «Яблыневы сад», «Смачны», хлеб «Мамін выбар» і каравай «Свята ўраджаю».

### Хлеб у якасці сувеніра замежным сябрам? Гэта магчыма

Як паведамляюць на прадпрыемстве, з усіх пералічаных прадуктаў бясспрэчным брэндам вось ужо некалькі год з'яўляецца хлеб «Маладзечанскі падарунак». Пакупнікі не толькі набываюць яго да свайго стала, а яшчэ вязуць у якасці прэзента замежным сябрам.

> На прадпрыемстве выпякаюць боханы рознай вагі «Маладзечанскага падарунка». А самы вялікі важыць амаль два з паловай кілаграмы.



Хлеб «Маладзечанскі падарунак» – брэнд прадпрыемства.


Журы аднaчыла торт «Знатны» з вішняй.

Фотаздымкі забяспечаныя Аляй ВАСІЛЕЎСКАЙ.



Шматлікія рэспубліканскія і міжнародныя ўзнагароды папоўнілі скарбонку Маладзечанскага хлебазавода.

Каля 30 найменняў прадукцыі на год распрацоўваюць у мясцовай лабараторыі. Тут жа даюць назвы новаму прадукту. А паколькі зарэгістраваных найменняў хлебабулачных вырабаў у Беларусі шмат, назвы прыдумваюць прыгожыя, з мясцовым каларытам. Так з'яўляюцца ў крамах духмяныя боханы «Дамашоўскага», «Маладзечанскага прэміум» ды «Вялікага Гасцінца».

### Канкурэнцыі з прыватнікамі не баімся

Шмат прыватнікаў цяпер прапаноўваць тарты і пірожныя, якія разнастайныя па смаку і знешнім выглядзе. Але на Маладзечанскім хлебазаводзе не баяцца канкурэнцыі.

Наўрад ці на стандартнай кухні ў дзесяць квадратаў можна прыгатаваць торт з захаваннем усіх санітарных нормаў і правілаў і гарантыяй бяспекі для пакупніка. Ды і задаволіць павышаны перадсвяточны попыт на ласунку прыватнік не здолее, перакананы спецыялісты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Філіял «Маладзечанскі хлебазавод» ААТ «Барысаўхлебпрам» УНП 600074923

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 7693556.*

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль у любым стане. Тэрмінова. Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Бітую іншамарку, забяру сам, грошы адразу. Т. (8-029) 9085343.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак. Вольга. Т. (8-029) 7674753.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9485029.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### ЗДАМ

• Здам у арэнду (магчымы наступны продаж) памяшканне агульнай плошчай 370 кв.м для ажыццяўлення рознічнага гандлю прадуктамі харчавання. Цэнтральная каналізацыя, эл. магутнасць 50кВт, адрамантаванае. Г. Маладзечна, вул. Святаянская,75. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. А1 (8-029) 6278076.*

## СПАЧУВАННІ

Выказваю спачуванне **Марыі Браніславаўне Берасневай** з прычыны напаткаўшага гора – смерці сына **Аляксея.** Смуткую разам з вамі.

**Аляксандр Салагуб, 1935.**

Шаноўная **Марыя Браніславаўна Бераснева!** Я ў вялікім смутку раздзяляю разам з Вамі напаткаўшае Вас вялікае гора! Выказваю Вам і ўсім Вашым родным і блізкім самыя шчырыя спачуванні. Я рады ўсім сэрцам Ваш боль прытушыць, але як гэта зрабіць, не ведаю... Трымайцеся, даражэнькая Марыя Браніславаўна, і ведайце, што ў гэты цяжкія для Вас хвіліны я душой і сэрцам разам з Вамі!

**З вялікай павагай, краязнаўца, член СБП Алесь Раткевіч.**

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Анол С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, вадаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Прадам мабільны тэлефон Meizu M8c у добрым стане, 100 руб. Т. (8-033) 3668181.*

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

• Электралічбавы пяцірадны баян з актыўнай акустычнай калонкай. Майстровы, зроблены вядомым майстрам Віктарам Шаўцовым (гл. Ютуб). Выдатны баян – 100 стыляў, 80 галасоў. Вельмі шмат дадатковых функцый. Баян у выдатным стане з чахлом. Цана 5200 рублёў. Уладзімір. Т. (8-029) 3349632, (8-029) 5517332.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі нядорага, дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 1707186.

• Каза з козачкай. Валожынскі раён. Т. (8-029) 3597375.*

• Козы маладыя агуленыя, казляняты на мяса. Нядорага. Т. (8-044) 7462476.*

• Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Гідраход для ДОН-1500 альбо аналаг. Т. (8-029) 1707186.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ІНШАЕ

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

• Прадавец на калгасны рынак. Прысутнасць санітарнай кніжкі абавязковая! Тэлефануйце! Т. (8-029) 5073888.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў, замена ніжніх вянцоў, рамонт фундаментаў, дахаў, аддзелка і ўцяпленне фасада, сайдынг, блокхаус, імітацыя бруса. Т. МТС (8-029) 8745410.*

| **Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:** | | | |
|---|---|---|---|
| | | **Вілейка** | -01771, |
| **Астравец** | -01591, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Мядзел** | -01797, |
| **Валожын** | -01772, | **Смаргонь** | -01592. |



Фота 0290.RU

# Як плаціць падаткі, калі здаяце жыллё ў арэнду

## Калі вы здаяце жыллё на доўгі тэрмін

З даходаў, якія вы атрымліваеце ад здачы фізічным асобам жылля на доўгі тэрмін, вам неабходна сплачваць падаходны падатак (падпункт 1.4 пункта 1 артыкула 197 Падатковага кодэкса).

Па агульным правіле вам трэба плаціць падатак у фіксаванай суме (частка 1 пункта 1 артыкула 221 ПК). Фіксаваныя стаўкі падатку прыведзеныя ў дадатку 2 да ПК. Аднак абласныя (Мінскі гарадскі) Саветы дэпутатаў могуць змяншыць агульныя стаўкі па асобных населеных пунктах або канкрэтным месцы размяшчэння жылля (падп.1.1, п. 1, арт. 221 ПК).

Звяртаем вашу ўвагу. Не трэба сплачваць падатак, калі вы здаяце жыллё:

– маладым спецыялістам, маладым рабочым або служачым (ч. 1, п. 52, арт. 208 ПК)

– арганізацыі або прадпрымальніку. У гэтым выпадку падатак утрымае з вашага даходу і пералічыць у бюджэт арандатар памяшкання (п. 1, ч. 1, п. 4, арт. 216 ПК).

Упершыню падатак неабходна сплаціць на наступны дзень пасля таго, як засялілі жыльцоў. Няважна, ці аформілі вы дагавор належным чынам, ці зарэгістравалі яго. Падатак усё роўна абавязкова трэба сплаціць (ч. 2, падп. 1.2, п. 1, арт. 216 ПК, падп. 1.7, п. 1 Указа ад 04.08.2006 №497).

Падатак неабходна плаціць штомесяц не пазней за 1 чысло за бягучы месяц. Напрыклад, за лістапад падатак плаціцца не пазней за 1 лістапада. Калі стаўкі мяняюцца ў гэтым месяцы, падатак пералічваецца ў наступным (ч. 1, падп. 1.2, п. 1, арт. 215 ПК).

Калі вы атрымалі даход ад здачы ў наём жылля па дагаворы, які заключаны не ад першага чысла або скасаваны не апошнім числом месяца, то падатак разлічваецца прапарцыйна колькасці дзён здачы жылля ў такім месяцы (п. 2, арт. 221 ПК).

| Код плацяжу | | Найменне плацяжу |
|---|---|---|
| Раздзел | Падраздзел | |
| 01 | 07 | Падаходны падатак з фізічных асоб у фіксаваных сумах (г. зн. прызначэнне плацяжу 0107) |

**Звесткі для запаўнення плацежных дакументаў у мясцовы бюджэт.**

## Парадак сплаты падаходнага падатку ў фіксаваных сумах

Стаўкі падатку можна паглядзець на сайце Міністэрства па падатках і зборах: nalog.gov.by / Падаткаабкладанне фізічных асоб / Падаткі і зборы, сплачаныя фізічнымі асобамі / Здача жылых і нежылых памяшканняў, машына-месцаў у найм (арэнду) / Стаўкі падаходнага падатку з фізічных асоб у фіксаваных сумах / Мінская вобласць.

Для сплаты сумы падатку неабходна ведаць свой уліковы нумар і банкаўскія рэквізіты для аплаты.

Уліковы нумар: nalog.gov.by / Звесткі пра бізнес-партнёра / Пошук звестак з Дзяржаўнага рэестра плацельшчыкаў, якія не з'яўляюцца падатковай таямніцай.

Банкаўскія рэквізіты для аплаты:

ДУ МФ РБ па Мінскай вобл.

р/р BY87AKBB 36006220000150000000

ААТ «АСБ «Беларусбанк» г. Мінск

код банка AKBBBY2X, УНП 600537220

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

У гарадах рэгіёна прайшлі акцыі пратэсту.

# У гарадах рэгіёна ўшаноўвалі памяць загінулага Рамана Бандарэнкі

**13 і 15 лістапада ў Маладзечне, Вілейцы і Смаргоні прайшлі жалобныя акцыі. Жыхары ўшаноўвалі памяць загінулага ў Мінску Рамана Бандарэнкі, які памёр 12 лістапада ў бальніцы пасля таго, як яго прывезлі ў стане комы з аддзялення міліцыі. Расказваем, як прайшлі акцыі.**

### Жалобныя ланцугі

13 лістапада ў Маладзечне людзі запальвалі свечкі, ускладалі кветкі каля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі, стаялі ў жалобным ланцугу на праспекце, каб ушанаваць памяць загінулага Рамана Бандарэнкі.

Кветкі і свечкі каля помніка пакутнікам маладзечанцы пачалі пакідаць яшчэ з вечара 12 лістапада. На наступны дзень, 13 лістапада, жалобныя акцыі праходзілі ў некалькіх пунктах горада. Напрыклад, ля Чырвонага касцёла каля ста чалавек стаялі ў жалобным ланцугу.

У парку каля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі людзі ўсклалі кветкі, запалілі свечкі, а потым некалькі дзясяткаў чалавек сталі ў ланцуг на Вялікім Гасцінцы. У жалобным ланцугу на праспекце аблаялі жанчыны, якія праходзілі міма.

**Яны казалі дэманстрантам браць чамаданы і з'язджаць у Польшчу, а таксама адзначалі, што грудзьмі лягуць за Лукашэнку.**

Пратэстоўцы амаль не рэагавалі на выпады гэтых жанчын.

Ля праспекта людзі стаялі ў ланцугу паўгадзіны, пасля чаго разышліся. На дарозе паблізу ланцуга зламалася машына – яе адбуксіравалі інспектары ДАІ.

Акцыі суправаджалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным **Яўген Кеўра** і **Яраслаў Туровіч**. Яны здымалі людзей на відэакамеру. Пасля завяршэння акцыі відавочцы паведамілі, што ля рынку затрымалі **Жанну Мандрык**.

13 лістапада ў Вілейцы таксама прайшла жалобная акцыя. Вілейскія міліцыянеры затрымалі восем чалавек. У той дзень некалькі чалавек выйшлі ў цэнтр Вілейкі, каб выказаць жалобу па Раману Бандарэнку, які памёр 12 лістапада.

Па словах відавочцаў, людзі пастаялі некалькі хвілін, а потым іх затрымалі супрацоўнікі Вілейскага РАУС. Вядома, што былі затрыманыя **Аляксей Сюдак** і **Андрэй Кудзік**. Трох чалавек адпусцілі ў той жа дзень. Увечары да затрыманага **Віталя Саланца**, якога адпусцілі з аддзялення, прыйшлі міліцыянеры і зноў затрымалі.

15 лістапада на гарадскім рынку Вілейкі выстраілася чарга да палаткі з фруктамі, якая належыць Віталю Саланцу.

13 лістапада ў Смаргоні мясцовыя жыхары ўскладалі кветкі, запальвалі свечкі ля помніка невядомаму салдату. Па словах відавочцаў, смаргонскія міліцыянеры затрымалі некалькіх чалавек.

### Нядзельнае жалобнае шэсце

15 лістапада ў Маладзечне пратэстоўцы прайшлі шэсцем па Вялікім Гасцінцы, памаліліся каля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі. Усё гэта адбывалася ў суправаджэнні сілавікоў у балаклавах.

Маладзечанцы пачалі збірацца каля Чырвонага касцёла. Там людзі памаліліся, а потым пайшлі шэсцем па Вялікім Гасцінцы.

Спачатку сілавікі дзяжурылі каля Лядовага палаца, а пасля на двух аўтамабілях суправаджалі дэманстрантаў на іх шляху. Людзі адзначалі, што падчас шэсця было незвычайна мала міліцыі.

**Дэманстранты скандавалі шматлікія лозунгі: «Жыве Беларусь!», «Далучайся!», «Рома!», «Сыходзь!». Калі пратэстоўцы ішлі каля сілавікоў, то ім крычалі «Забойцы!».**

Па дарозе да людзей падыходзілі мінакі, далучаліся да шэсця. Не абышлося без жанчын і мужчын сталага ўзросту, якія негатыўна рэагавалі на пратэстоўцаў. Яны выкрыквалі ім услед, што дэманстранты хочуць вайны і з'яўляюцца здраднікамі.

Фінальным пунктам шэсця стаў помнік пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі. Людзі ўсклалі кветкі, запалілі свечкі, памаліліся. Перад малітвай на помнік паклалі бел-чырвона-белы сцяг.

Сілавікі пакінулі дзве машыны на ўваходзе ў парк. З некалькіх бакоў акружылі людзей, пакуль тыя маліліся ля помніка.

Пасля малітвы пратэстоўцы разышліся. Нам вядома пра затрыманне мінімум трох чалавек – **Дыяны Дашчынскай**, **Уладзіслава Мурзіна**, **Аляксандра Махоціна**. Сілавікі затрымалі іх па адным. Відавочцы расказалі, што пры затрыманні мужчын сілавікі выкарысталі фізічную сілу і спецсродкі. Затрыманняў падчас шэсця не было.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# тэлетыдзень 23-29 лістапада

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● НАВІНЫ КІНО

## Апошнія навіны ў свеце кінаіндустрыі

### Фільм Канчалоўскага вылучылі на «Оскар»

Карціна **Андрэя Канчалоўскага** «Дарагія таварышы!» можа прадставіць Расію на 93-й цырымоніі ўручэння прэміі «Оскар». Расійскі оскараўскі камітэт прапанаваў карціну на атрыманне прэміі Амерыканскай кінаакадэміі ў катэгорыі «Лепшы замежны фільм».

Стужка распавядае пра разгон мірнай дэманстрацыі, якая адбылася ў Новачаркаску ў 1962 годзе. У цэнтры сюжэту – працаўніца парткама Людміла (Юлія Высоцкая), якая шчыра верыць у тое, што будуе камуністычнае грамадства, і абураецца паводзінамі заводскіх бунтаўшчыкоў. Але, калі ў бойні на плошчы без вестак знікае яе дачка, карціна свету перакананай камуністкі раптоўна бурыцца.

Цырымонія ўручэння прэмій «Оскар» адбудзецца 25 красавіка 2021 года.

### Міхаіл Зыгар напісаў кнігу пра выбары 1996 года ў Расіі

У бліжэйшы час на прылаўках кнігарняў з'явіцца новая кніга расійскага пісьменніка Міхаіла Зыгара «Усе вольныя: Гісторыя аб тым, як у 1996 годзе ў Расіі скончыліся выбары».

У ёй аўтар піша пра падзеі канца 1995 года, калі Барыс Ельцын, які перанёс інфаркт, вырашыў зноў балатавацца на пасаду прэзідэнта Расіі, і пра тое, што за гэтым рушыла ўслед. Кніга Зыгара ляжа ў аснову серыяла, які выйдзе на сайце «КиноПоиск HD» у 2021 годзе.

### Джоні Дэпа звольнілі з трэцяй часткі «Фантастычных пачвар»

Джоні Дэп не будзе здымацца ў трэцяй частцы франшызы «Фантастычныя пачвары». Па словах Дэпа, кантракт паміж ім «Уорнер Бразэрс» быў скасаваны па ініцыятыве студыі.

Аб звальненні Дэпа стала вядома праз некалькі дзён пасля завяршэння суда паміж ім і таблоідам The Sun. Акцёр абвінаваціў выданне ў паклёпе за матэрыял 2018 года, у якім гаварылася, што ён збіваў сваю былую жонку Эмбер Хёрд. 2 лістапада стала вядома, што Высокі суд Лондана адхіліў яго пазоў.

Пра канфлікт паміж Дэпам і Хёрд стала вядома ў 2016 годзе. Актрыса падала на развод, абвінаваціўшы мужа ў фізічным гвалце, і праз суд забараніла яму набліжацца да сябе.

### Рамана Паланскага пазбавілі сяброўства ў савеце прэміі «Сезар»

Французская кінаакадэмія ўнесла змяненне ў савет прэміі «Сезар», выключыўшы некалькіх членаў. У агульнай складанасці месцаў пазбавіліся 18 чалавек, якія ўваходзілі ў склад з-за мінулых творчых заслуг.

З гэтага часу савет прэміі будзе складацца са 164 абраных членаў – 82 мужчын і 82 жанчын. Іх абіраюць 4300 членаў Акадэміі з розных прафесій, якія кожны год выбіраюць лаўрэатаў самай прэстыжнай французскай кінапрэміі.

Гэта першае сур'ёзнае рашэнне, прынятае **Веранік Кайл**, якая ўзначаліла кінаакадэмію, пасля таго як у лютым кіраўніцтва прэміі ў поўным складзе пайшло ў адстаўку на фоне скандалу з Раманам Паланскі. Паланскага абвінавацілі ў згвалтаванні. Таксама супраць яго неаднаразова вылучалі абвінавачанні ў сэксуальным гвалце.

### Здымкі спецвыпуску «Сяброў» пройдуць у сакавіку 2021-га

Зорка «Сяброў» **Мэцью Пэры** абвясціў, што ўз'яднанне акцёрскага складу серыяла адбудзецца ў сакавіку 2021 года.

У спецвыпуску на экране зноў сустрэнуцца **Кортні Кокс**, **Мэт Леблан**, **Ліза Кудроў**, **Дэвід Швімэр**, **Джэніфер Эністан** і Пэры. Праект знаходзіцца ў распрацоўцы некалькі месяцаў.

У 2019 годзе «Сябры» адзначылі 25-годдзе. Прэм'ера серыяла адбылася ў 1994 годзе. Праект праіснаваў 10 сезонаў і завяршыўся ў 2004-м. Ён прызнаны адным з лепшых камедыйных серыялаў у гісторыі амерыканскага тэлебачання і стаў адным з найбольш знакамітых праектаў 1990-х.

Падрыхтавала
Настасся УТКІНА.





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 23 НОЯБРЯ

**7.00, 16.00, 18.25, 21.05, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.10** «Мульт-парад».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** Д/ф «КАК ЗИМУЮТ ЖИВОТНЫЕ».
**10.05** Мультфильмы «Три богатыря и морской царь».
**11.20** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**13.05** Х/ф **«KINGSMAN. СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**
**15.15, 18.30** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.50** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАКАТ».**
**23.30** Х/ф **«НИКОГДА НЕ ГОВОРИ НИКОГДА».**

### ВТОРНИК, 24 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 18.25, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**9.00, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.45** Д/ф «КТО В ТУМАНЕ ГУЛЯЕТ».
**10.00** Мультфильмы «Золушка».
**11.15, 16.50** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**12.45** Х/ф **«НИКОГДА НЕ ГОВОРИ НИКОГДА».**
**15.00, 18.30** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.25** «Дети о еде».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПТИЦЕЛОВ».**
**23.00** Х/ф **«СИРОТСКИЙ БРУКЛИН».**

### СРЕДА, 25 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 18.45, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 10.30** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** «Дети о еде».
**11.25, 17.10** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**13.00** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**
**15.00, 18.50** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.00** «Мульт-парад». «Аладдин. Возвращение Джафара».
**19.35** «Готовь как шеф».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«АРМАГЕДДОН».**
**23.45** Х/ф **«АПГРЕЙД».**
**1.25** «Погода» + «Эрана.

### ЧЕТВЕРГ, 26 НОЯБРЯ

**7.00, 15.50, 21.10, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.00** Мультфильмы «Скуби Ду».
**10.30** «Готовь как шеф».
**11.00, 16.40** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**12.35** Х/ф **«АРМАГЕДДОН».**
**15.00, 18.25** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**18.10** «Фешн is my профешн».
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВТОРОЙ ФРОНТ».**

### ПЯТНИЦА, 27 НОЯБРЯ

**7.00, 16.05, 21.10, 1.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.15** «Мульт-парад».
**7.30, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** Д/ф.
**10.45, 16.55** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**12.15** Х/ф **«ВТОРОЙ ФРОНТ».**
**15.15, 18.25** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** «Герои комиксов на экране» Фантастический триллер «Хранители».
**23.55** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ».**

### СУББОТА, 28 НОЯБРЯ

**7.00, 19.00, 21.10, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Илья Муромец и соловей разбойник».
**8.25** «Приколы 13-й школы».
**8.30** Х/ф **«ВА-БАНК».**
**10.15** «Пес Барбос и необычайный кросс».
**10.30** «Дети о еде».
**10.55** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ. ПОСЛЕДНИЙ РЫЦАРЬ».**
**13.25** «Погода».
**13.30** «Смотрим всей семьей»: «101 далматинец».
**14.15** Мультфильмы «Три богатыря и морской царь».
**16.30** Х/ф **«ЖИВЕШЬ ТОЛЬКО ДВАЖДЫ».**
**18.30** «Бьюти День».
**19.05** Х/ф **«ДЕЖА ВЮ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ДОКТОР СТРЕНДЖ».**
**23.15** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 29 НОЯБРЯ

**7.00, 13.10, 16.55, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Алиса в стране чудес».
**8.20** «Приколы 13-й школы».
**8.25** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН».**
**10.00** «Бьюти День».
**10.30** Х/ф **«ЭКИАЖ».**
**13.15** «Мульт-парад».
**15.00** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**17.00** «Детектив на экране»: «Подвиги Геракла».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«О ЛЮБВИ».**
**22.45** Х/ф **«ГЛАДИАТОР».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 23 НОЯБРЯ

**6.30, 13.00, 17.10, 22.15** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**9.40** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**11.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**14.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**15.45** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ».**

### ВТОРНИК, 24 НОЯБРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15, 17.15, 22.15** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**14.00** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**15.40** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ».**

### СРЕДА, 25 НОЯБРЯ

**6.30, 8.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 19.15** Мая радзіма.
**10.00** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**12.00, 16.20, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**14.35** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**17.20, 20.15** Рядом со звездами.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ЧЕТВЕРГ, 26 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 18.00** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.55, 13.45, 22.15** Мажорный лад.
**12.10** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**14.05** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**16.00** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**19.15** Мая радзіма.
**20.15** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**

### ПЯТНИЦА, 27 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15, 19.20, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**13.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**15.35** Х/ф **«ИМЯ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

### СУББОТА, 28 НОЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости. Время местное.
**7.20, 15.50, 18.15, 19.20, 22.30** Мажорный лад.
**8.20** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**10.05** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.10** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**13.45** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**16.40** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Желаем вам.
**21.10** Новости БЖД.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 29 НОЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**8.20** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**10.25** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**13.20** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**
**14.55** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**16.20** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**17.50** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**19.35** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**21.35** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**

## Беларусь 1

**6.15** Х/ф **«Я ТЕБЯ НАЙДУ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.20** Родные люди.
**10.40** Зона Х. Итоги недели.
**11.15** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«НУЖНА НЕВЕСТА С ПРОЖИВАНИЕМ».**
**14.30** Маршрут построен.
**15.15** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН».**
**16.30** Один день.
**17.05** Х/ф **«ТЫ МОЙ СВЕТ».**
**19.00** «Евровидение –2020». Детский конкурс песни.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Навіны надвор'я.
**22.30** Х/ф **«ОТ СУДЬБЫ НЕ ЗАРЕКАЙСЯ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.55** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.40, 19.35** Телебарометр.
**9.50** «До свидания». Реалити-шоу.
**10.35** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.
**11.35** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**12.30** Х/ф **«ХАНА: СОВЕРШЕННОЕ ОРУЖИЕ».**
**14.20, 20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**15.15** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«МЕГАН ЛИВИ».**
**23.20** Х/ф **«ЛЮДИ КАК МЫ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.05, 20.20** Навіны культуры.
**8.20, 14.30** «Гэты дзень».
**8.25** «Серая Шейка». Мультфільм.
**8.45** «Мая Анфіса». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Зуцы.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Чорны замак Альшанскі». Мастацкі фільм [СТ].
**14.35** «Зверабой». Мастацкі фільм [СТ].
**17.10** «Дыскатэка СССР». Канцэрт «Дзень добры, сябры!».
**18.05** «Бландзінка за вуглом». Мастацкі фільм [СТ].
**19.30** «Кадры жыцця». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Краўчанка.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Ганна Герман». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.15** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.15** ОНТ представляет: «В конце тоннеля».
**9.30** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.50** ОНТ представляет: «Народный повар».
**11.05** «Видели видео?».
**12.30** К юбилею Геннадия Хазанова. «Без антракта».
**15.00** К юбилею Геннадия Хазанова. «Точь-в-точь».
**16.20** К юбилею Геннадия Хазанова. «Точь-в-точь» Продолжение.
**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Что? Где? Когда?». Специальный выпуск к 45-летию программы.
**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**22.55** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ В ЗИМНИЙ ПЕРИОД».**

## СТВ

**6.35, 2.10** «Странное дело».
**8.20** «Великие тайны».
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.05** Документальный проект.
**12.10, 13.40, 16.40** Т/с **«ВЛАДИМИРСКАЯ, 15».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.05** Документальный спецпроект.
**23.00** Т/с **«ПАССАЖИР БЕЗ БАГАЖА».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«ЧИСТО АНГЛИЙСКОЕ УБИЙСТВО».**
**5.40** Мультфильмы.
**6.40** Х/ф **«ДЕТИ ДОН-КИХОТА».**
**8.50** «Наше кино. История большой любви».
**9.25** «ФазендаЛайф». Мансарда «Карлсон».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. КРЫМ».**
**12.25, 16.15** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. СКРЫТЫЙ ВРАГ».**
**17.10, 19.30** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. ЛИСЬЯ НОРА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**22.25, 1.00** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. УДАРНАЯ ВОЛНА».**
**3.10** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.10** «Наукомания».
**6.45** «50 рецептов первого».
**7.20** «Кто в доме хозяин?».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.50** Беларусы.
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.25** «Первая передача».
**10.55** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** Истории спасения.
**13.10** «НашПотребНадзор».
**14.10** Х/ф **«ЧУЖОЕ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** «Звезды сошлись».
**21.30** Ты не поверишь!
**22.30** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Специальный репортаж».
**7.20** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ МУЖ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.10** Х/ф **«КОГДА НАСТУПИТ РАССВЕТ».**
**14.40** Х/ф **«ЗАВТРА БУДЕТ НОВЫЙ ДЕНЬ».**
**18.15** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях».
**21.45** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».
**22.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.15** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.40** Шпион, который меня кинул. **8.35** Из Парижа с любовью. **10.15** РЭД. **12.10** Дитя человеческое. **14.00** Новый человек-паук. **16.30** Новый Человек-паук: Высокое напряжение. **19.00** Повелитель стихий. **20.50** Элизиум: Рай не на Земле. **22.45** Инопланетное вторжение: Битва за Лос-Анджелес. **0.45** Мистер и миссис Смит. **3.05** Солт. **5.00** Девять ярдов.

### TV1000 ACTION

**7.45** Во имя короля: История осады подземелья. **10.00** Револьвер. **12.00** Большой куш. **13.45** Город грехов 2: Женщина, ради которой стоит убивать. **15.30** 24 часа на жизнь. **17.05** Коломбиана. **19.00** Ангелы Чарли. **20.40** Ангелы Чарли: только вперёд. **22.25, 5.10** D.O.A.: Живым или мёртвым. **23.50** Время псов. **1.20** Посылка. **3.15** Вавилон Н.Э.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.40, 4.00** Помню –не помню! **8.10** Ярды. **9.45** Граница. Таёжный роман. **12.05** На Дерибасовской хорошая погода, или на Брайтон-Бич опять идут дожди. **13.45** СуперБобровы. **15.30** СуперБобровы. Народные мстители. **17.05** Домовой. **19.00** Мамы. **20.55** Мамы 3. **22.35** Без границ. **0.15** Кровавая леди Батори. **2.15** Свадьба по обмену. **5.30** Карлик Нос.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.30** «Новый день». **10.00, 23.00** Х/ф **«БЛИЗНЕЦЫ». 12.15** Х/ф **«ОБМАНУТЬ ВСЕХ». 14.15** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ». 16.45** Х/ф **«ОСОБО ОПАСЕН». 19.00** Х/ф **«ЗНАЧИТ, ВОЙНА». 21.00** Х/ф **«МОЙ ПАРЕНЬ –КИЛЛЕР». 1.00** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШАРКБОЯ И ЛАВЫ». 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«РОДИТЕЛЬСКОЕ ПРАВО». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«Я-ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. ОШИБКА В ПРОГРАММЕ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 0.00, 1.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 2.00, 3.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«УЕДЕМ К ЧЕРТОВОЙ БАБУШКЕ». 1.45** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ». 3.20** Х/ф **«ТАКСИ 2». 4.50** Х/ф **«ТАКСИ 3». 6.20** Х/ф **«ПОДМЕНА». 8.15** Х/ф **«ВАМПИРСКИЙ ЗАСОС». 9.50** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 11.40** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ». 13.40** Х/ф **«ИЗ 13 В 30». 15.30** Х/ф **«ПАПЕ СНОВА 17». 17.25** Х/ф **«С ГЛАЗ –ДОЛОЙ, ИЗ ЧАРТА –ВОН!». 19.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА». 21.55** Х/ф **«ДЖЕЙ И МОЛЧАЛИВЫЙ БОБ НАНОСЯТ ОТВЕТНЫЙ УДАР». 23.50** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.50, 2.55, 4.10, 5.20, 6.20** Т/с **«БОГОМОЛ». 7.30, 8.25, 9.15, 10.10, 11.05, 11.55, 12.50, 13.45, 14.40, 15.35, 16.30, 17.20, 18.15, 19.05** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 20.00, 20.55, 21.55, 22.50** Т/с **«ТРИ ДНЯ ЛЕЙТЕНАНТА КРАВЦОВА». 23.45** Т/с **«ДОЛИНА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.45** «ЛОВИ МОМЕНТ». **9.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«ОХОТНИКИ НА ДРАКОНОВ». 14.35** Х/ф **«ИНОПЛАНЕТНОЕ ВТОРЖЕНИЕ: БИТВА ЗА ЛОС-АНДЖЕЛЕС». 16.50** Фильм-катастрофа «ГЛУБОКОВОДНЫЙ ГОРИЗОНТ». **19.00** Х/ф **«ФИЛОСОФЫ: УРОК ВЫЖИВАНИЯ». 21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.05** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40** Фигурное катание. Гран-при. Осака. Мужчины. Произвольная программа. **8.10** Фигурное катание. Гран-при. Осака. Гала-шоу. **10.00** Азбука спорта. **10.10** Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Киев. **12.20** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Спринт. Мужчины. **13.50** Футбол. Чемпионат Беларуси. 30-й тур. Обзор. **14.35** Пит-стоп. **15.05** Игры «на вырост». **15.40** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Спринт. Женщины. **17.00** Спорт-центр. **19.30, 22.05** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.30, 7.30, 21.45** Снукер. UK Championship. Второй раунд. **2.35** Ралли. ERC. Канарские острова. Обзор. **3.05, 17.25** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Рука. HS 142. **3.30, 9.30** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Мужчины. Индивидуальная гонка. **4.15** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Индивидуальная гонка. **5.00, 10.30, 11.20** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. HS 142. **5.30, 10.55, 16.55** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Рука. Гонка преследования. 10 км. **6.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Женщины. Классика. 10 км. **6.45** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины. Классика. 15 км. **12.20, 20.45** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Мужчины. Спринт. **13.50** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Женщины. Гонка преследования. 10 км. Свободный стиль. **14.25** Лыжные гонки. Кубок мира. Рука. Мужчины. Гонка преследования. 15 км. Свободный стиль. **15.40** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Спринт. **19.15** Санный спорт. Кубок мира. Инсбрук. Женщины. 2-я попытка. **19.45** Санный спорт. Кубок мира. Инсбрук. Спринт.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Все включено. **6.15, 17.15** Металломощики. **7.00, 18.05** Автовинтаж. **7.30, 8.05** Самообслуживание. **7.45, 10.15, 12.55, 16.45, 18.40, 23.25, 1.35, 3.55** Итоговые новости. **8.25** Это Родина твоя. **9.25, 10.45** Возвращение легенды. **9.55** Всё включено. **10.35** Вторичка. **11.20, 19.30, 22.45, 3.15** Работяги. **11.40, 19.50, 23.00, 3.30** Наезд! **11.45, 19.55, 23.10, 3.40** Дома на колесах. **12.05, 20.15, 23.45, 4.10** Стальные парни. **13.15, 0.35** Испытание на прочность. **14.20, 1.50** Тест на «Драйве». **15.30** Эконом-тест. **15.50** Гаражная команда. **17.00, 21.40** Авто: вторые руки. **18.55** Авто. Вторые руки. **21.05, 4.55** Обновление. **21.10, 5.05** Поездка выходного дня. **2.45** Сити-тестер. **5.30** Норильск –Диксон. Есть рекорд!

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35** Речные чудовища. **9.30** Рыбалка со звездами. **10.15, 0.35** Невероятная рыбалка. **11.10, 19.25** Австралийское мега-метро. **12.15, 12.40, 22.10, 22.35** Демонтаж: Новая Зеландия. **13.05, 13.30, 21.15, 21.40** Австралийские ловцы быков. **13.55, 14.40, 15.30, 16.15, 17.05, 17.50, 18.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **23.00, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **1.30, 2.10, 2.55** Лесные люди. **3.35** Дикая Монтана. **4.25** Адские грузовики. **5.15, 5.40** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.15, 7.05, 7.50, 8.35, 2.50, 3.35** Музейные тайны. **9.20, 10.05, 12.40, 13.25, 18.20** Расшифровка тайн. **10.50, 11.45** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **14.10, 15.00, 15.50, 16.35** Запретная история. **17.25** Расшифрованные сокровища. **19.05** Золотое кораблекрушение. **20.05** Операция «Золотая лихорадка». **21.00** Вена: империя, династия и мечта. **21.55** Тайны египетских пирамид. **22.50** Оружейники: искусство войны. **23.40, 0.25** Карты убийства. **1.15, 2.00** Загадки Египта. **4.20** Охота за сокровищами нацистов. **5.10, 5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.15, 7.05, 7.55, 22.00, 22.50** Выживание в дикой природе. **8.50, 16.40, 21.05** В поисках Султана. **9.40** Дикий штат Карнатака, Индия. **10.35** Дикий Токио. **11.30, 12.25** Уэльс: дикая земля. **13.15, 14.10** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **15.00** Гиамо –царица гор. **15.55** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **17.35, 18.25** Загадочная планета. **19.15** Гениальные морские охотники. **20.10** Берег хищников. **23.40** Невероятные встречи с животными. **0.30** Хищные питомцы. **1.15, 5.15** Мутации погоды. **2.05** Анатомия крупнейших животных. **3.10** Ветеринар из Йоркшира. **3.55, 4.20** Уличный ветеринар. **4.50** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Сделать за один день. **6.20, 7.10** Авто-SOS. **8.00, 8.50** Самые лучшие суперкары. **9.45** Короли рыбалки. **11.25, 12.15** Машины: Разобрать и продать. **13.05, 13.55** Настоящий суперкар. **14.45, 15.40, 16.35** Мегазаводы. **17.25, 18.20, 19.10, 20.05** 11 сентября: Хроника террора. **21.00** Тайные файлы Бен Ладена. **21.50** Расследования авиакатастроф. **22.40** Секунды до катастрофы. **23.30** 911. **0.20** Создание Райского острова. **1.10, 2.00, 2.50, 5.15** Осушить океан: глубокое погружение. **3.35, 4.25** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 10.35, 14.40, 18.30, 22.35, 2.35** Профессиональная рыболовная лига. **7.00, 11.05, 15.10, 19.00, 23.05, 3.10** Мой мир –рыбалка. **7.25, 15.40, 23.35** Вкусные рецепты рыболова. **8.00, 12.05, 16.10, 20.00, 0.05, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.35, 16.40, 20.30, 0.35, 4.35** Давай зарубимся! **8.40, 12.50, 20.45, 0.50, 4.50** Популярная охота. **9.00, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.35, 13.35, 17.30, 21.35, 1.40, 5.35** Мир рыболова. **11.35, 19.30, 3.35** Вкусные рецепты охотника. **13.05** С ружьём на плече. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05, 2.05** Охота и рыбалка в.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.50, 18.50, 22.45, 2.55** Флористика. **7.00, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.25** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.30, 20.25, 0.25, 4.40** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Траповед. **9.35, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Моя крепость. **11.10** Огород круглый год. **11.25** Огород круглый год. Осенние работы. **15.10** Огород круглый год. Лайфхаки. **1.55** Наш румяный каравай.

# Каля Уладыкаў знайшлі кулі паўстання 1863 года

## Тут паўстанцы Каліноўскага біліся з расійскімі жаўнерамі

**Цікавасць да падзей 1863 года ў вёсцы Уладыкі ў нас узнікла ў 2015 годзе, калі мы пачалі праводзіць першыя археалагічныя раскопкі ў Ілы. Тады даведаліся, што пад Уладыкамі 16 (28) мая 1863 года адбылася моцная сутычка паміж атрадам паўстанцаў пад кіраўніцтвам шляхціча Вінцэнта Козела-Паклеўскага і царскімі жаўнерамі.**

ВІЛЕЙКА

Археалагічнае вывучэнне месцаў баявых дзеянняў – гэта галіна даследаванняў, якая імкліва развіваецца ў сусветнай археалогіі. Адным з напрамкаў такіх даследаванняў з'яўляецца абследаванне тэрыторыі мяркуемага месца бітвы, а таксама размяшчэння абозаў ваюючых бакоў металадэтэктарамі. Галоўнае – дакладна фіксаваць месцазнаходжанне кожнай знаходкі. Даследаванні дапамагаюць лакалізаваць месца бітвы, часта дапаўняюць інфармацыю пісьмовых крыніц, даюць магчымасць зразумець асаблівасці канфлікту. Палявой працы папярэднічае вывучэнне пісьмовых апісанняў бітваў, старых і сучасных карт мясцовасці.

Бітва пад Уладыкамі не з'яўлялася вырашальнай у паўстанні 1863 года ў Беларусі, хоць і была досыць буйная. Яна завяршылася паразай паўстанцаў.

### Абеліск у гонар паўстанцаў паставілі ў Ілы

Месца масавага пахавання атрада ў часы Расійскай імперыі ніяк не пазначалася. Увага пачалася з часоў Другой Рэчы Паспалітай – заключэння Рыжскага мірнага дагавора. Планавалася ўсталяваць тут абеліск. Але па выніку абеліск усталявалі ў суседняй Ілы, прыкладна ў чатырох кіламетрах на захад. На яго адкрыццё прыязджаў прэзідэнт Польшчы **Ігнацы Масціцкі**.

Абеліск разбурылі ў савецкі час. Сёння ў памяць пра падзеі паўстання ва Уладыках усталявалі мемарыял, які рэгулярна наведваюць мясцовыя аматары гісторыі. Ёсць на месцы і інфармацыйны стэнд.

### Планавалі зрабіць засаду, але праспалі ранні пад'ём

Вёска Уладыкі размяшчаецца на левым беразе невялікай забалочанай ракі Іліі. Мясцовасць не моцна змянілася з часоў паўстання, нягледзячы на меліярацыю. У 19 стагоддзі гэта тэрыторыя была не толькі забалочаная, але і пакрытая шырокімі лясамі. З поўдня Ілія ўпіралася ў Стайкі-Абадоўскую пушчу (Старынкаўскі лес), якая рассякалася напалову дарогай са Старынак на Стайкі.

Прастора вакол вёскі амаль не ўзворваецца. Бліжэй да ракі зямля моцна забалочаная. Гэта дазваляе праводзіць тут даследаванні ў сухую пару альбо раннай вясной, альбо позняй восенню. Першы раз група са студэнтаў і выпускнікоў гістфака БДУ прыязджала сюды летась. Мы агледзелі тэрыторыю на поўдзень, усход і захад ад вёскі, але да самой ракі не дайшлі. Толькі ўпэўніліся, што працы трэба праводзіць на яе беразе, на высокім месцы.

Менавіта праз Стайкі-Абадоўскую пушчу і праходзіў атрад паўстанцаў, які 12 мая пабываў у Зацем'і – фальварку, дзе цяпер вёска Зацемень. Планавалася, што тут яны адпачнуць і рушаць далей з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Аднак паўстанцаў праследавала ўрадавае войска. Таму яны сталі лагерам каля Мацкаўцаў, дзе планавалі зрабіць засаду на атрад казакоў. Па паведамленні ўдзельніка паўстання **Кавалеўскага**, атрад праспаў ранні пад'ём. І паўстанцам нічога не заставалася, як рухацца на поўдзень да Іліі. Час быў дажджлівы, і рака разлілася, таму атрад пачаў будаваць плыты і пераправіцца на супрацьлеглы бераг на іх. Мяркуючы па захаваным апісанні, гэта адбывалася на паўночны захад ад вёскі Уладыкі.

### Хто здаў паўстанцаў

Памылкай паўстанцаў была пераправа на вачах у сялян, якія і данеслі расійскаму войску аб іх месцазнаходжанні. Па адных звестках, яны паведамілі ў Ілью, дзе знаходзіўся гарнізон. Па іншых, селянін паказаў жаўнерам брод вышэй па плыні Іліі «ў страшным балоце». Расійскія войскі напалі на паўстанцаў з усходу і поўдня. Атрад прыціснулі да ракі.

Па звестках пісьмовых крыніц, тут адбыўся маштабны бой.



Знойдзеныя кулі.

> **Больш за сто паўстанцаў (з больш чым двухсот) загінула або трапіла ў палон. Сярод расійскіх войскаў таксама былі страты.**

Рускіх пахавалі на вясковых могілках, а паўстанцаў у брацкай магіле без апазнавальных знакаў.

### Знайшлі кулі, сякеру, нажы

7 лістапада наша каманда ад раніцы выехала з Мінска, каб абследаваць мяркуемае месца бітвы. У склад экспедыцыі ўваходзілі супрацоўнікі і студэнты гістарычнага факультэта БДУ, а таксама выпускнікі і валанцёры. На месцы да нас таксама далучыліся зацікаўленыя ўдзельнікі з Вілейкі, у тым ліку прадстаўнікі Вілейскага краязнаўчага музея.

На месцы адны ўдзельнікі пры дапамозе металадэтэктараў пачалі абследаваць тэрыторыю ў напрамку на паўночны захад, іншыя фіксавалі знаходкі. Кожную рэч запісвалі ў калекцыйны вопіс, ёй надавалі нумар, заводзілі ўліковую картку. Месца знаходкі пазначалася на мясцовасці, а затым замяралася пры дапамозе тахеометра, каб можна было дакладна нанесці ўсе знаходкі на карту.

Першыя знаходкі адлюстроўвалі звычайнае вясковае жыццё і не мелі дачынення да бітвы. Аднак, калі наша група дайшла да мяркуемага месца пераправы, нам пашанцавала. На невялікай пляцоўцы памерам каля 50 х 50 метраў мы знайшлі кулі, якія выкарыстоўваліся ў 1863 годзе, сякеру, некалькі нажоў і іншых прадметаў. Колькасць знаходак нязначная для такой маштабнай бітвы.

Гэтаму, на нашу думку, можа быць некалькі тлумачэнняў. Паводле першага, ці лакалізацыя месца бітвы, ці яе ход апісаныя ў крыніцах няправільна. Маштабы сутычкі маглі былі быць і адмыслова завышаныя, прычым з абодвух бакоў. А магчыма, мы сваімі даследаваннямі зачапілі толькі маленькую частку месца бітвы, а яе асноўны ход разгортваўся крыху ў іншым месцы.

Але высокая трава і кароткі дзень не дазволілі агледзець усе магчымыя варыянты. Спадзяюся, што ў нас атрымаецца вярнуцца ва Уладыкі вясной і знайсці адказы на ўсе пытанні. А пакуль нас чакае кабінетная праца – вывучэнне знаходак і далейшы грунтоўны аналіз пісьмовых крыніц.

Хочацца ад свайго імя падзякаваць усім удзельнікам нашай экспедыцыі за дапамогу ў правядзенні даследавання.

**Паліна КУРЛОВІЧ,**
**дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін, кіраўнік даследаванняў.**
**Фота аўтара.**

---

● КАЛЯНДАР

20 ЛІСТАПАДА
**1899.** Нарадзіўся **Міхась Клімковіч**, беларускі пісьменнік, аўтар гімна БССР.

21 ЛІСТАПАДА
**1920.** Разгортваецца Слуцкі збройны чын – узброенае выступленне супраць савецкай улады, якое адбылося ў Слуцкім павеце. У гэты дзень Рада Случчыны выдае дэкларацыю, у якой заклікае сялянства «на барацьбу за незалежную Беларусь у яе этнаграфічных межах».

22 ЛІСТАПАДА
**1954.** У Ільы нарадзілася **Святлана Марозава**, у дзявоцтве Палуцкая, беларускі гісторык, доктар гістарычных навук.



23 ЛІСТАПАДА
**1906.** У Вільні выйшаў першы нумар тыднёвіка «Наша ніва» на беларускай мове.

24 ЛІСТАПАДА
**1902.** У Барунах, цяпер Ашмянскі раён, нарадзіўся **Мікалай Арэхва**, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык.

25 ЛІСТАПАДА
**1795.** Кароль польскі і вялікі князь літоўскі **Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** адмовіўся ад стальца Рэчы Паспалітай на карысць расійскай імператрыцы **Кацярыны II**. Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае спынілі сваё існаванне.

26 ЛІСТАПАДА
**1812.** Пачалася пераправа Напалеона праз Бярэзіну.
**1891.** У в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён, нарадзіўся **Ян Станкевіч**, беларускі мовазнаўца, гісторык, палітычны дзеяч. Доктар славянскай гісторыі і філалогіі.



**1943.** Ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызвалены Гомель.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# У сям'і выратавальнікаў – папаўненне

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечанскім ГРАНС ёсць сям'я, дзе муж і жонка працуюць выратавальнікамі. Ксенія Таратута – старшы інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі. Дзмітры Таратута – старшы памочнік начальніка штаба ліквідацыі надзвычайных сітуацый.**




Разам з мужам Ксенію з радзільні сустракалі калегі.

Маладыя людзі пазнаёміліся, калі вучыліся ва ўніверсітэце грамадзянскай абароны. Пажаніліся праз два гады пасля выпуску. Разам – 11 гадоў.

**Прафесія выратавальніка няпростая. Трэба быць гатовым да выкліку на працу ў любую хвіліну. Нягледзячы на гэта, сям'я спраўляюцца і са сваёй прафесійнай працай, і з выхаваннем ужо дваіх дзяцей.**

4 лістапада ў сям'і Таратутаў нарадзіўся сын Сцяпан. Ціхан, першынец, стаў старэйшым братам. Сцяпан нарадзіўся асілкам, больш за чатыры кілаграмы.

**Відаць, у тату, які сур'ёзна займаецца спортам.**

У аддзеле ўсе ведаюць і любяць Ціхана. Хлопчыку нярэдка даводзіцца «несці службу» разам з бацькамі. Ён ужо ведае ўсю пажарную тэхніку, разбіраецца ў спецыяльных званнях, чуў сігнал трывогі. Магчыма, калі-небудзь і малодшага Сцёпу будзе захапляць, як старэйшага брата, прафесія выратавальніка. А з часам сям'я папоўніцца двума маладымі спецыялістамі, якія працягнуць справу бацькоў.

9 лістапада работнікі Маладзечанскага ГРАНС прыехалі да радзільні павіншаваць з папаўненнем сям'ю Таратутаў. Прагучала шмат пажаданняў, віншаванняў і цёплых слоў у адрас нованароджанага.

**Валянціна СОПАТ,**
**ГРАНС Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Нямецкі фонд падтрымаў аздараўленчы праект у «Надзеі»

**Днямі ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры «Надзея» завяршыўся чарговы аздараўленчы праект, які ладзілі пры падтрымцы дабрачыннага нямецкага фонду «Жыццё пасля Чарнобыля» (Leben nach Tschernobyl) з Франкфурта-на-Майне. Дзякуючы праекту на Вілейшчыне папраўлялі здароўе дзеці з Гомеля і Гомельскай вобласці.**

ВІЛЕЙКА

Як паведамляюць у цэнтры, праект ладзілі ад 17 кастрычніка да 9 лістапада. За 24 дні дзеці змаглі папravіць сваё здароўе, дзякуючы шматлікім медыцынскім працэдурам. У вольны час яны шпацыравалі па лесе і берагах Вілейскага вадасховішча, каталіся на роварах, займаліся на вулічных трэнажорах і спартыўных пляцоўках.

Педагогі адзначаюць, што гэта змена была насычаная. Ад пачатку лістапада скончылася першая чвэрць і пачаліся канікулы.

**Таму больш увагі надалі масавым мерапрыемствам, заняткам у гуртках, наведванню вяровачнага парку «Лесвіца ў неба».**

У канцы змены школьнікі падзяліліся, што хацелі б вярнуцца ў «Надзею» яшчэ.

Нагадаем, што «Надзея» і фонд «Жыццё пасля Чарнобыля» звязвае партнёрства ў некалькі дзесяцігоддзяў.

**Яшчэ ў чэрвені 1990 года ва ўсходнім Берліне на канферэнцыі, што ладзілі Беларускі экалагічны саюз і праектная група «Жыццё пасля Чарнобыля» беларускія і нямецкія ўдзельнікі дамовіліся аб супрацоўніцтве.**

Тады ж і ўзнікла ідэя стварэння дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра «Надзея», а дабрачынны фонд з Франкфурта-на-Майне стаў адным з заснавальнікаў.

**На працягу існавання цэнтра фонд фінансава падтрымлівае аздараўленчыя праекты, шле ў цэнтр гуманітарную дапамогу.**

Летам «Надзея» атрымала з Германіі мэблю, ровары, страхавачнае абсталяванне для вяровачнага гарадка, запчасткі для катла на дрывах, цацкі, адзенне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота nadeshda.by.

Дзякуючы падтрымцы нямецкіх партнёраў у «Надзеі» школьнікі з Гомеля папраўлялі здароўе і цікава бавілі час.

# Адзін з галоўных гімнаў пратэстаў «Магутны Божа» спрабуюць звязаць з нацызмам

**14 кастрычніка падчас набажэнства кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Веніямін заявіў, што забараняе спяваць гімн «Магутны Божа». Тэолаг-рэлігіязнаўца Юлія Чырва патлумачыла гэту забарону тым, што гімн звязаны з нацызмам і цяпер яго выкарыстоўваюць, каб разбурыць Беларусь.**




Наталля Арсеннева і Максім Танк. Вільня, 1936 год.

Фота be.wikipedia.org.

«Рэгіянальная газета» расказвае, як тэолаг-рэлігіязнаўца Юлія Чырва спрабуе ў артыкуле звязаць гімн «Магутны Божа» з нацызмам і як гэта, па яе меркаванні, уплывае на пратэсты ў Беларусі.

## Забарона Веніяміна

14 кастрычніка на набажэнстве ў Свята-Пакроўскім саборы ў Гродне патрыяршы экзарх выступіў з прамовай, у якой забараніў выконваць гімн «Магутны Божа».

– Не трэба выконваць спеў свецкага характару, які падзяляе наша грамадства, – «Магутны Божа». Хоць ён мае духоўную афарбоўку, але, тым не менш, хтосьці радуецца выкананню гэтага спеву, а хтосьці засмучаецца. У нас дастаткова спеваў, якія не падзяляюць, а яднаюць наша грамадства, нашы прыходы.

Юлія Чырва ў сваім артыкуле «Почему Владыка Вениамин просил не исполнять «Магутны Божа» на рэсурсе «Поднепровье Инфо» спрабуе апраўдаць забарону Веніяміна на выкананне гімну. Свой артыкул тэолаг-рэлігіязнаўца пачынае з крытыкі апазіцыі, «на якой няма крыжа». Маўляў, прадстаўнікі апазіцыі не маюць права крытыкаваць забарону Веніяміна, таму што яны «маладухоўныя» і «адкрыта бездухоўныя».

## Супрацоўніцтва з нацыстамі – кампраметацыя гімна

Галоўны пасыл тэксту Чырвы палягае ў тым, што аўтары «Магутнага Божа» звязаныя з нацыстамі. Значыць, калі аўтары супрацоўнічалі з акупацыйнымі ўладамі, то сам гімн з'яўляецца скампраметаваным і нават фашысцкім, як Чырва яго потым у матэрыяле і назаве.

Аўтар «Малітвы за Беларусь» (пазней стане гімнам «Магутны Божа») **Наталля Арсеннева** сапраўды была звязаная з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Доўгі час яна жыла ў Заходняй Беларусі, а пасля ў 1940 годзе яе выслалі ў Казахстан органы НКВД. Яна вярнулася ў Беларусь перад нападзеннем нацыстаў на Савецкі Саюз. Наталля была замужам за **Францішкам Кушалем**, які працаваў у Беларускай дапаможнай паліцыі, Беларускім корпусе самаахові і гэтак далей.

Менавіта пра Францішка Кушаля аўтар піша «прыстасаванец і здраднік». Кушаль быў вайскоўцам, які служыў у царскай і польскай арміях. Чырва называе яго і «дэзерцірам», таму што ён, па словах аўтара, пакінуў шэрагі царскай арміі пасля 1917 года. Аднак тэолаг-рэлігіязнаўца не пазначае ў тэксце, што мільёны вайскоўцаў тады пакінулі царскую армію – яна проста перастала існаваць пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Да Наталлі Арсеннявай у Чырвы толькі дзве прэтэнзіі – яна прасоўвала нацысцкую ідэалогію на беларускай мове, была замужам за чалавекам, што працаваў на немцаў. Ніякіх доказаў, што Арсеннева прасоўвала нацысцкую ідэалогію, аўтар артыкула не прыводзіць.

## Сувязь з пратэстамі ў Беларусі

Затым Чырва адкрыта называе гімн «Магутны Божа» фашысцкім, але толькі таму, што яго аўтар была звязаная з нацысцкай акупацыйнай уладай на тэрыторыі Беларусі.

«Мы пока не будем подробно разбирать сам текст песни «Магутны Божа», а попытаемся с позиций одного из направлений в психологии показать, как действует на сознание и подсознание простых граждан подобная форма героизации фашизма».

Тэолаг-рэлігіязнаўца адмаўляецца разбіраць тэкст гімна. У тэксце няма ні аднаго слова пра нацызм ці намёк на яго.

Чырва спрабуе з дапамогай нямецкай псіхалогіі патлумачыць, што праз спеў «Магутнага Божа» на пратэсных акцыях людзям спрабуюць навязаць нацысцкую ідэалогію і разбурыць Беларусь.

«Современные последователи нацистских пособников к ассоциативному ряду, исторически сложившемуся вокруг песни «Магутны Божа», добавляют преступные деяния, связанные с антигосударственными выступлениями, исполняя его на незаконных массовых мероприятиях, где призывают к свержению государственного конституционного строя».

Такім чынам, амаль увесь артыкул Юліі Чырвы прысвечаны прыніжэнню гімна, таму што яго аўтар жыў у акупаванай Беларусі ў 1940-я гады, а сваякі аўтара працавалі на нацыстаў.

**У артыкуле аўтар неаднаразова здзекліва выкарыстоўвала беларускую мову, шмат тэксту напісана мовай варожасці – асабліва ў адносінах да апазіцыянераў і пратэстоўцаў.**

## Здзек з беларускай мовы

Чырва напісала артыкул на рускай мове. Аднак у ім некалькі разоў здзекліва выкарыстала беларускія словы, каб прынізіць гімн ці яго значэнне:

«После разразившегося скандала вокруг песни с претензией на молитву «Магутны Божа» появилось много публикаций с разными аргументами в поддержку этого песнопения и с осуждением упоминания аб «творы» как о произведении, созданном людьми, запятнавшими себя сотрудничеством с нацистами».

«Какую «краіну» она призывает Бога сделать «магутной» и какой «народ» «шчастливым» в своих стихах, написанных в 1943 году, – большой вопрос».

**Настасся УТКІНА.**

# Як былы школьны работнік змяніў прафесію

**Маладзечанец Сяргей Сідаровіч працаваў у школе за 150 рублёў за паўстаўкі. Але дзякуючы ініцыятыве «Сумленныя людзі» змог атрымаць дадатковае навучанне і цяпер шукае працу. Расказваем пра досвед Сяргея.**

Сяргей скончыў маладзечанскую школу №5, а пасля паступіў у Ашмянскі дзяржаўны аграрна-эканамічны каледж на спецыяльнасць тэхніка-праграміста. Шукаў месца для пераддыпломнай практыкі. У маладога чалавека было размеркаванне па Гродзенскай вобласці, таму што вучыўся ў Ашмянах. Дырэктар сярэдняй школы №9 **Юры Вяршыцкі** прыняў маладога спецыяліста. Ужо падчас практыкі прапанаваў падпісаць запыт на адпрацоўку.

### Заробак 150 рублёў

Сяргею было зручна застацца на адпрацоўцы ў родным горадзе. У школе працаваў па спецыяльнасці інжынер-праграміст.

– Праца была максімальна лёгкая, але разнастайная, – прыгадвае Сідаровіч. – Ад апрацоўкі фота да сістэмнага адміністравання. Неаднаразова па просьбе дырэктара я выязджаў у іншыя бюджэтныя арганізацыі – СШ №1, СШ №5, «Маладзік», аддзел адукацыі. Зарплата складала капейкі, тым больш, што ў мяне было паўстаўкі. Але пра гэта папярэдзілі адразу.

За палову стаўкі малады спецыяліст меў каля 150 рублёў чыстымі – без прэмій і іншых надбавак. Гэта складае палову вызначанай мінімальнай зарплаты. Калі была магчымасць, давалі матэрыяльную дапамогу, часта давалі прэміі, але ўсё роўна выходзіла нямат.

Каб дасягнуць прымальнага ўзроўню даходу, малады мужчына браў падпрацоўкі – як па спецыяльнасці, так і не.

### Як гэта лета змяніла светапогляд

Жнівеньскія падзеі непасрэдна закранулі Сяргея. 13 жніўня яго з сябрам затрымалі міліцыянеры на аўтобусным прыпынку за ўдзел у акцыі 10 жніўня. Яму давялося адседзець у СІЗА, пасля быў асуджаны па другой частцы артыкула 23.34 «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». Суд прызначыў пакаранне ў выглядзе штрафу на 20 базавых велічынь, а да суда суткі правёў за кратамі.

– Да гэтага года ўвогуле ні каплі не цікавіўся палітыкай і не спрабаваў унікнуць, – прызнаецца Сяргей. – Чуў пра некаторыя падзеі, але неяк абыходзіў усё гэта бокам. Упершыню зацікавіўся тым, што адбываецца, калі гуляў па горадзе і ўбачыў натоўп каля шостай гімназіі, якія скандавалі: «Выпускай». Гэта было, калі затрымалі аднаго з кандыдатаў. На наступны дзень з'явіліся відэазапісы з супрацоўнікамі АМАПа, якія выцягваюць зброю, з маладымі людзьмі, якія адбіваюць тых, каго спрабуюць затрымаць.

Пасля гэтага здарэння Сяргей пачаў паглыбляцца ў тое, што адбываецца ў палітычным полі Беларусі – шукаў інфармацыю, сачыў за навінамі.

– Зразумеў, што наш народ стаміўся сядзець у клетцы з несправядлівасці і абыякавага стаўлення дзяржавы, – мяркуе маладзечанец. – 9 жніўня ведаў пра збор на плошчы, быў там. Спачатку нават падавалася, што нашы міліцыянеры будуць максімальна гуманнымі. Калі пачаліся затрыманні і пабоі, было страшна. Усе беглі, хто куды. Сярод гэтых людзей сустракаў знаёмых – хто з разбітай галавой, хто ў абадраным адзенні і з сінякамі на спіне.

### Як змяніць і шукаць працу

Сяргей вырашыў не працягваць працу ў школе, а знайсці яе на аддаленні ў сферы IT. У сувязі з каронавірусам такіх ахвотных шмат, таму пошукі ўскладніліся.

– У Маладзечне it-спецыялісты не цэняцца, хіба што ў дзяржаўных установах. Тым больш, вузкая спецыфікацыя не дазваляе разварнуцца на больш перспектыўныя варыянты працы з дому.

Асноўныя прапановы, якія атрымліваў Сідаровіч, прыходзілі з-за мяжы. Але маладзечанец не хацеў з'язджаць з роднага горада, нават у Мінск.

14 жніўня павінны былі пачацца бясплатныя курсы, пасля якіх уладкавалі б на працу ў буйную кампанію. Але так як Сяргея затрымалі ў СІЗА якраз у дзень старту курсаў, ён не змог трапіць у гэту групу. А наступны пачатак навучання – праз тры-чатыры месяцы.

Падказалі, што можна звярнуцца па дапамогу ў адукацыі да ініцыятывы «Сумленныя людзі». У спісе курсаў Сяргей знайшоў спецыяльнасць, на якую павінны быў вучыцца – тэставанне праграмнага забеспячэння. На вучобу ўзялі вельмі лёгка.

Заняткі праходзілі лёгка і камфортна ў анлайн-рэжыме. Дыктар чытаў лекцыі, адказваў на пытанні, задаваў дамашняе заданне. Напрыканцы заняткаў абмяркоўвалі выкананыя заданні, вывучалі пытанні, якія паўсталі падчас выканання. Мелі таксама чат, у якім заўсёды можна было вырашыць усе аператыўныя пытанні.

«Сумленныя людзі» дапамаглі не толькі з навучаннем, але і з арганізацыяй папярэдняга сумоўя. Калі цябе запрашаюць на нейкае сумоўе, трэба паведаміць пра гэта выкладчыку, і ён правядзе з табой тэставую гутарку. Гэта вельмі дапамагае. Таксама мы мелі доступ да ўсёй патрэбнай інфармацыі – лекцый, літаратуры, узораў рэзюмэ.

– Я шукаю працу, – расказвае Сідаровіч. – Складанасць у тым, што ў многіх месцах трэба мець досвед, калі працаваць з дому. А працаваць у офісе няма магчымасці, таму што ў Маладзечне мая спецыяльнасць, як і амаль любая з IT, не патрэбная. Цяпер у краіне вельмі нестабільная эканоміка, таму няма магчымасці знаходзіць падпрацоўкі – такія, якія былі ў мяне раней. Вяртацца ў школу жадання няма – праца займае значны час за мінімальную аплату. Гэтыя грошы магу зарабіць з нашмат меншымі затратамі часу. Да і няма ніякага прафесійнага росту ў школе, хіба што стаж капае. Але што гэты стаж дае, калі ты проста пыл праціраеш.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Маладзечанец Сяргей Сідаровіч.

Фота забяспечанае Сяргеем СІДАРОВІЧАМ.




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён)

# Маладзечанцу далі 12 сутак за шэсце і непадпарадкаванне. Ён сцвярджае, што пры затрыманні яго збілі

**Аляксандра Махоціна затрымалі 15 лістапада пасля шэсця ў Маладзечне. З аддзялення міліцыі мужчыну вазілі ў бальніцу, дзе аказвалі дапамогу. Махоцін сцвярджае, што пры затрыманні яго збілі. «Рэгіянальная газета» расказвае, як 17 лістапада прайшоў суд і якое пакаранне атрымаў маладзечанец.**



Бінтавы тампон на галаве ў Махоціна. Яго наклалі ў бальніцы ў нядзелю.

Карэспандэнт «РГ» паспела паразмаўляць з Аляксандрам у перапынку судовага пасяджэння. Ён паведаміў, што пры затрыманні яго збілі. Мужчына мяркуе, што дубінкай – ударылі некалькі разоў, у тым ліку па галаве. Ён не ведае, хто з супрацоўнікаў гэта зрабіў, таму што яны былі ў балаклавах.

Судовае пасяджэнне вёў суддзя **Барэйка**. Аляксандра Махоціна абараняў адвакат **Анатоль Клімовіч**.

Згодна з пратаколам, Махоцін удзельнічаў у шэсці, каб выказаць незадаволенасць сацыяльна-палітычнай сітуацыяй у краіне, а пры затрыманні аказаў непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў. Аляксандр Махоцін прызнаў вінаватым сябе часткова.

Абаронца Клімовіч хадайнічаў аб выкліку сведкі **Вольгі Партных**, якая бачыла затрыманне Махоціна – суд ухваліў.

**Па словах адваката, Махоціна павінны вызваліць з-пад варты, таму што затрыманы не падпісваў пратакол аб адміністрацыйным арышце – суддзя адхіліў.**

## Што расказаў Махоцін на судзе

15 лістапада Аляксандр прыехаў да «Модуля» па справах. Ён бачыў, што ля Чырвонага касцёла сабраліся людзі. Падышоў запытацца, з якой нагоды яны там стаяць. Яму патлумачылі, што збіраюцца ўшанаваць памяць Рамана Бандарэнкі.

**– Я быў вельмі ўзрушаны, калі пабачыў навіны пра гэта. Усёткі чалавек быў вельмі малады.**

Аляксандр вырашыў пайсці разам з людзьмі. Ішоў у навушніках, таму не чуў, што казалі супрацоўнікі міліцыі. Ён адзначыў, што ўдзельнічаў у шэсці з-за смерці Рамана Бандарэнкі, а не праз сацыяльна-палітычную сітуацыю ў краіне, як пазначылі ў пратаколе. Пасля шэсця і малітвы каля помніка пакутнікам ён пайшоў на работу. Па дарозе ўспомніў, што забыў ключы ад работы ў машыне, таму пайшоў да «Модуля». У дварах каля шостай школы Махоціна затрымалі.

Па словах Аляксандра, ён перабягаў дарогу і бачыў, што паблізу едзе міліцэйскі аўтамабіль. Махоцін звярнуў увагу на яго толькі тады, калі машына газанула. Мужчына апісвае сваё затрыманне так:

– Пачуў крык: «Стаяць! Страляць буду!». Спужаўся. Спыніўся. Я іх не бачыў, яны былі за маёй спінай.

**Падбеглі, заламалі рукі, ударылі па галаве. Пабачыў міліцэйскую форму толькі ў аўто.**

## Сведка Судніковіч

**Дзмітры Судніковіч** – супрацоўнік Маладзечанскага РАУС. У нядзелю знаходзіўся на службе па ахове грамадскага парадку. Ён назіраў за шэсцем ад Чырвонага касцёла да помніка пакутнікам.

Каля шостай школы частка людзей звярнула да рынку, а міліцыянеры абʼязджалі з іншага боку па дварах. У дварах Судніковіч пабачыў Махоціна. Па словах міліцыянера, калі мужчына ўбачыў міліцэйскі аўтамабіль, звярнуў у іншы бок. Судніковіч крыкнуў «Стаяць!», гэта самае крыкнуў яшчэ адзін міліцыянер, дадаўшы «Страляць буду!».

Судніковіч адзначыў, што Махоцін бег ад супрацоўнікаў, але ўпаў, і пасля гэтага мужчыну затрымалі. Міліцыянер сказаў, што ніякія спецсродкі не прымяняліся, а затрыманаму толькі заламалі рукі за спінай.

## Сведка Паўчанка

**Максім Паўчанка** – старшы інспектар Маладзечанскага РАУС. 15 лістапада разам з Судніковічам знаходзіўся на службе па ахове грамадскага парадку ў Маладзечне.

Паўчанка расказаў, што па Вялікім Гасцінцы прайшло шэсце, а ў раёне шостай школы людзі разышліся. Падчас затрымання Махоціна Паўчанка знаходзіўся ў службовым аўтамабілі, не бачыў усе абставіны затрымання. Аднак адзначыў, што затрыманага не білі.

## Сведка Партных

Вольга Партных знаходзілася за інтэрнатам каля рынку. Жанчына бачыла ў дварах міліцэйскі аўтамабіль. Яна назірала, як чацвёра міліцыянераў выскачылі з машыны, схапілі мужчыну. Двое супрацоўнікаў адкрылі дзверы, каб туды потым пасадзіць затрыманага. Па словах Вольгі, усё адбывалася вельмі хутка.

Суддзя зачытаў пісьмовыя матэрыялы справы. Згодна з рапартам супрацоўніка міліцыі, імя і прозвішча суддзя Барэйка не назваў, у нядзельным шэсці ўдзельнічала каля 40 чалавек. Па падліках нашых карэспандэнтаў, – некалькі соцень чалавек.

У матэрыялах справы быў і аператыўны відэазапіс. Махоцін убачыў сябе на ім толькі з чацвертай спробы. У аддзяленні міліцыі пасля затрымання ў мужчыны забралі мабільны тэлефон і грошы (134 рублі).

**Аляксандр Махоцін папрасіў у суддзі не даваць яму суткі, таму што з'яўляецца адзіным кармільцам у сям'і. Яго жонка цяпер цяжарная, у яго ёсць двое дзяцей.**

Суддзя Барэйка прызнаў Аляксандра Махоціна вінаватым у парушэнні артыкулаў 23.34 (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве) і 23.4 (непадпарадкаванне).

**Суд пастанавіў пакараць Махоціна арыштам на 12 сутак.**

Арышт тэлефона і грошай адмянілі.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Аб пераходзе на спрошчаную сістэму падаткаабкладання ад 2021 года

Парадак прымянення спрошчанай сістэмы падаткаабкладання рэгулюе глава 32 Падатковага кодэкса (ПК).

Паводле часткі другой пункта 2 артыкула 327 ПК, арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі, што прынялі рашэнне аб прымяненні ад 1 студзеня 2021 года спрошчанай сістэмы падаткаабкладання, павінны ў перыяд ад 1 кастрычніка да 31 снежня 2020 года падаць у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік адпаведнае паведамленне.

Форма паведамлення аб пераходзе на спрошчаную сістэму падаткаабкладання ўстаноўлена ў дадатку №36 да пастановы Міністэрства па падатках і зборах ад 3 студзеня 2019 года №2.

Перайсці на прымяненне спрошчанай сістэмы ад 1 студзеня маюць права:

– арганізацыі, у якіх колькасць работнікаў у сярэднім за першыя дзевяць месяцаў 2020 года не перавышае 100 чалавек і валавая выручка нарастаючым вынікам за гэты ж перыяд складае не больш за 1 538 843 рублі;

– індывідуальныя прадпрымальнікі, у якіх валавая выручка нарастаючым вынікам за першыя дзевяць месяцаў 2020 года складае не больш за 330 750 рублёў.

Звяртаем увагу плацельшчыкаў, што для дзейных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў пераход на спрошчаную сістэму падаткаабкладання магчымы толькі з пачатку каляндарнага года (п. 1, арт. 327 ПК).

Субʼекты гаспадарання, якія плануюць зарэгістравацца ў 2021 годзе з мэтай здзяйснення прадпрымальніцкай дзейнасці, таксама будуць мець права на прымяненне спрошчанай сістэмы падаткаабкладання ад дня іх дзяржаўнай рэгістрацыі пры ўмове, што спісачная колькасць работнікаў арганізацыі не будзе перавышаць 100 чалавек. Нядаўна зарэгістраваныя плацельшчыкі павінны падаць у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік адпаведныя паведамленні цягам 20 рабочых дзён ад дня іх дзяржаўнай рэгістрацыі (п.3, арт. 327 ПК).

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Як склаўся дэбютны сезон для ФК «Астравец»

**Футбольны клуб «Астравец» завяршыў дэбютны сезон у другой лізе чэмпіянату Беларусі. Выканальнік абавязкаў дырэктара ФК «Астравец» Уладзімір Амбрасевіч расказаў ostrovets.by пра выніку сезона.**


Фота ostrovets.by.

Выканальнік абавязкаў дырэктара ФК «Астравец» Амбрасевіч чакае, што каманда згуляе ў наступным сезоне.

### Хто такі Уладзімір Амбрасевіч

Уладзімір Амбрасевіч нарадзіўся ў Смаргонскім раёне. Жыў з бацькамі 10 год у Цюменскай вобласці ў Расіі, затым вярнуліся ў Беларусь. Амбрасевіч захапляецца футболам з дзяцінства. У Расіі займаўся ў секцыі па міні-футболе, выступаў на спаборніцтвах. Ён кажа, што футбол – частка яго жыцця. Працаваў прэс-сакратаром у «Смаргоні» сем гадоў.

– Загадчык сектара спорту і турызму Астравецкага райвыканкама **Аляксей Дварэцкі** прапанаваў працу тут – я пагадзіўся. Новы клуб, падбор футбалістаў, наладжванне кантактаў – гэта цікава, – расказаў Амбрасевіч.

### Пра астравецкую каманду

Перад пачаткам чэмпіянату праводзілі адкрытую трэніроўку, сабралі каманду за некалькі тыдняў. Па словах Амбрасевіча, правялі першыя чатыры гульні паспяхова, а потым здалі пазіцыі.

– Прыйшлося зрабіць ратацыю: пасля першага круга 11 футбалістаў пакінулі клуб, а 9 – папоўнілі. Хлопцы сыграліся – другі круг мы правялі лепш. Была задача стварыць баяздольную каманду і годна правесці сезон, каб пра «Астравец» пачулі.

### Пра заўзятараў

На думку Амбрасевіча, на стадыёне ў Астраўцы можна сабраць каля 700-800 гледачоў. Аднак эпідэміялагічная сітуацыя ў сезоне не спрыяла.

> **– Нягледзячы на ўсе нюансы, мы адчувалі падтрымку балельшчыкаў – і за гэта вялікі дзякуй усім, хто прыходзіў на матчы.**

### Пра вынік у сезоне

Выканальнік абавязкаў дырэктара лічыць, што дзявятае месца ў другой лізе – гэта нядрэнна. Нагадаем, што ўсяго гулялі 22 каманды.

– Былі гульні, у якіх чагосьці не хапала, былі матчы, дзе гульцы проста перагаралі, – футбола без памылак не бывае, але мы над імі працуем.

Амбрасевіч кажа, што ў дывізіёне «А», у якім гуляў «Астравец», сабраліся моцныя каманды. Ён лічыць, калі б каманда гуляла ў іншай групе, то ўвайшла б у тройку лепшых.

### Пра наступны сезон

– Упэўнены, мы яшчэ ўзарвём трыбуны. Плануваць пакуль рана, але, спадзяюся, будуць пастаўленыя максімальныя задачы, і мы зробім усё магчымае.

**Паводле ostrovets.by.**

## Тэнісістка Сабаленка вернецца ў топ-10

11-я ракетка свету **Арына Сабаленка** абыграла **Барбару Крэйчыкаву** ў паўфінале турніру ў Лінцы – 7:5, 4:6, 6:3.

Беларуска выйграла восемь матч запар і тройчы раз у сезоне выйшла ў фінал. За кошт гэтага выніку Сабаленка абышла **Серэну Уільямс** і вернецца ў топ-10.

Пасля Сабаленка абыграла **Элізу Мэртэнз** у фінале турніру ў Лінцы. Гэта восьмы тытул беларускай тэнісісткі ў кар'еры.

**Паводле WTALinz.**

## «Дынама-Маладзечна» прайграла «Нёману»

Дынамаўцы ўпершыню ў гэтым сезоне прайгралі гродзенскаму «Нёману». Маладзечанцы правалі матч на дамашняй пляцоўцы, але саступілі з буйным лікам 1:4. Адзіную шайбу ў гульні за «Дынама» забіў **Даніла Клімовіч**. За «Нёман» забівалі **Ілля Рак**, **Даніла Паліўка**, **Ягор Сцяпанаў**, **Павел Печур**.

Наступную гульню «Дынама-Маладзечна» правядзе 19 лістапада з «Гомелем».

**Аддзел інфармацыі.**

## Аднаго з самых перспектыўных баскетбалістаў Украіны звольнілі з клуба

«Чаркаскія Малпы» скасавалі кантракт з абаронцам зборнай Украіны **Аляксандрам Кабецам**.

Прычына палягае ў тым, што баскетбаліст гуляў на таталізатары.

Кабец лічыўся адным з лепшых баскетбалістаў свайго пакалення. Нароўні з абаронцам «Дэтройт Пістанс» **Святаславам Міхайлюком** ён быў лідарам маладзевай зборнай. Кабец спрабаваў прабіцца ў НБА, заключыўшы кантракт з фарм-клубам «Вашынгтона», але яму перашкодзіла сур'ёзная траўма.

**Паводле mavpabasket.com.**

## Зборная Беларусі перамагла літоўцаў

Зборная Беларусі перамагла каманду Літвы ў матчы групавога этапу Лігі нацый – 2:0. На пятай хвіліне вызначыўся **Яўген Яблонскі**, на 21-й – **Макс Эбонг**.

Пасля пяці тураў каманда пад кіраўніцтвам **Міхаіла Мархеля** лідзіруе ў турнірнай табліцы.

**Паводле pressball.by.**

## «Раўбічы» не прымуць чэмпіянат свету-2025

Чэмпіянат свету-2025 па біятлоне пройдзе ў швейцарскім Ленцэргайдэ. Такое рашэнне прынялі на кангрэсе Міжнароднай федэрацыі па біятлоне.

Адзіным канкурэнтам Швейцарыі былі беларускія «Раўбічы». Чыноўнікі Міжнароднай федэрацыі па біятлоне вырашылі даверыць правядзенне турніру Ленцэргайдэ.

У 2024 годзе чэмпіянат свету пройдзе ў чэшскім Нова-Месца.

РЦАП «Раўбічы» прымаў чэмпіянаты свету ў 1974, 1982 і 1990 гадах. У лютым 2022-га тут павінны прайсці этап Кубка свету.

**Паводле pressball.by.**

## Былы капітан «Гомеля» пажыццёва адхілены ад футбола

Былы капітан «Гомеля» расійскі паўабаронца **Дзмітры Айдаў** рашэннем ФІФА пажыццёва адхілены ад любой футбольнай дзейнасці ва ўсіх краінах свету.

Ён не зможа ўдзельнічаць у любой якасці ні ў якіх футбольных актыўнасцях, арганізаваных ФІФА, лакальнымі федэрацыямі, удзельнічаць у праектах, якія фінансуюцца ўрадамі краін.

Айдаў быў фігурантам гучнай справы аб дамоўных матчах. Тэлеканал СТВ паведамляў, за здачу гульняў супраць БАТЭ і брэсцкага «Дынама» Айдаў атрымаў 22000 долараў. Беларуская федэрацыя футбола пазней пажыццёва дыскваліфікавала гульца, прызнаўшы яго персонай нон грата.

**Паводле pressball.by.**

## «Известия»: Усё ідзе да таго, што чэмпіянат свету па хакеі не перанясуць з Беларусі

Крыніца «Известий» у адной з еўрапейскіх нацыянальных федэрацый распавяла пра тое, што ўсё ідзе да таго, што ў Беларусі не будуць адбіраць чэмпіянат свету.

– Пакуль усё ідзе да таго, што Міжнародная федэрацыя не будзе нічога пераносіць і пакіне ўсё, як ёсць. Самому апарату Рэнэ Фазеля нявыгадна перабудоўваць усю працу за паўгода да турніру, большасць аўтарытэтных нацыянальных федэрацый выказаліся ў падтрымку цяперашніх планаў, і нават латвійская федэрацыя гатовая праводзіць ЧС сумесна з Беларуссю, нягледзячы на заяву ўрада сваёй краіны. Супраць толькі Фінляндыя, але ў хакейных колах гэта звязваюць з тым, што ў свой час гэта краіна прайграла Беларусі і Латвіі барацьбу за ЧС-2021. Магчыма, яе федэрацыя разлічвае, што ў выпадку чаго заменіць Мінск наступнай вясной», – сказала крыніца «Известиям».

Пры гэтым суразмоўца падкрэсліў, што цяпер найбольшая асцярога ў Міжнароднай федэрацыі выклікае магчымасць адмены чэмпіянату свету з-за пандэміі.

Калі Міжнародная федэрацыя вырашыць перанесці турнір з Мінска, то ў гэтым выпадку ўсе матчы будуць праходзіць у Латвіі. Нагадаем, у 2021 годзе мае адбыцца чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску і Рызе. У святле апошніх падзей Латвія заклікала перанесці турнір з Мінска.

**Паводле iz.ru.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Спецыяліст для правядзення даследавання па спрэчным ці няясным пытанні.
5. Нешта незвычайнае, тое, што выклікае здзіўленне.
6. Скандальная кінакарціна 1933 года, дзе маладую німфаманку сыграла Хэдзі Ламар. У фільме паказалі першую ў гісторыі мастацкага поўнаметражнага кіно сцэну купання ў возеры без адзення. Карціну забаранілі ў шэрагу краін.
8. Велічыня, якая паказвае, у колькі разоў адлегласць на чарцяжы меншая або большая за адлегласць у натуры.
10. Ініцыятар арганізацыі сучасных Алімпійскіх гульняў.
11. Дакладны каляндарны час падзеі, здарэння.
12. Характэрныя для сабак, ліс і некаторых іншых звяроў гукі.
15. Знак пераважна ў выглядзе металічнага кружка з рэльефным адбіткам і надпісам для ўзнагароды за асаблівыя заслугі.
17. Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над другім.
18. Маладое пакаленне, бліжэйшыя патомкі.
20. Вялікая пералётная птушка з доўгай прамой чырвонай дзюбай і высокімі чырвонымі нагамі.
21. Ён, апісваючы свой касмічны досвед, параўнаў сябе з Майдадырам. А менавіта з рэчамі, як прадметы побыту збягаюць ад чалавека.
22. Першы рускі пісьменнік, які выкарыстаў новую літару алфавіта – «ё». У 1783 годзе на пасяджэнні акадэміі слоўнасці гук «іо» вырашылі запісваць як «ё». Сярод твораў гэтага пісьменніка – «Бедная Ліза».
24. Арганізаванае масавае спыненне работы на прадпрыемстве, каб прымусіць кіраўніцтва задаволіць патрабаванні рабочых.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Зоська Верас вядомая не толькі грамадскай і літаратурнай дзейнасцю. Яна яшчэ займалася батанікай. Напрыклад, склала кнігу «Батанічны ...», у якім на першае месца ставіла назвы раслін па-беларуску. А яшчэ чытала курсы па агародніцтве і пчалярстве.
2. Нядобра, моташна.
4. Вялікая цыліндрычная пасудзіна з двума плоскімі днішчамі, зробленая з выпуклых драўляных клёпак, сціснутых абручамі, або з бляхі.
5. Паведамленне, заметкі, дасланыя ў газету ці часопіс.
7. Дрыжаць, калаціцца.
9. Жылое, адміністрацыйнае ці гаспадарчае збудаванне.
13. Адзін са штатаў ЗША, у якім традыцыйна больш падтрымліваюць рэспубліканскую партыю.
14. Дванаццаць аднолькавых прадметаў.
16. Раздзел фізікі, які вывучае законы перамяшчэння цел у прыродзе.
17. Займеннік, які ўжываецца замест назоўніка жаночага роду адзіночнага ліку, які абазначае, звычайна ў папярэднім кантэксце, прадмет гаворкі.
19. Вуліца, завулак, якія не маюць скразнога праходу, праезду.
20. Сварка, сутычка.
23. Загаловак кнігі.
25. Адмоўная велічыня.
26. Шчэпка.

## Адказы на крыжаванку з №46

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Пачуццё. 3. Гадзюка. 6. Інфузорыя. 7. Ухіл. 10. Фантан. 12. Збожжа. 13. Геній. 14. Праўды. 16. Атлас. 18. Рабунь. 19. Фокус. 20. Горла. 21. Ацтэкі. 22. Крамнік. 23. Правал. 25. Фрамуга.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Заезд. 3. Гараскоп. 4. Фальклор. 5. Цэх. 8. Зліток. 9. Завіўка. 11. Азот. 15. Акно. 17. Прочырк. 19. Фабула. 23. Пафас. 24. Ахвяра. 26. Паход.

## ● ГАРАСКОП НА 20-26 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** У гэты час будзе такі настрой, калі захочацца паразважаць, ацаніць тое, што адбываецца вакол вас. Магчыма, пераасэнсаванне цяперашняга этапу жыцця натхніць на рашэнні, да якіх вы даўно ішлі, але не наважваліся дайсці да канца.



**ЦЯЛЕЦ.** Неабходна падтрымліваць камунікабельнасць на максімуме і як мага больш размаўляць з людзьмі. Прычым хутчэй праз сацыяльныя сеткі і тэлефон. Гэта не толькі дапаможа арганізаваць дні прыемнымі, але і вырашыць многія пытанні.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам захочацца больш часу праводзіць у фантазіях, а не ў рэальнасці. Такое жаданне зразумелае, але не здзіўляйцеся, што гэта будзе ўсіх раздражняць. Пастарайцеся адмовіцца ад планаў, якія маюць мала блізкага да рэальнасці.



**РАК.** Вы будзеце вельмі ўпартымі і ўпэўненымі ў сабе. Давядзецца пераўзысці сябе ў выкананні працы і пільных заданняў. Добра, што за гэта вы атрымаеце сур'ёзную падзяку.



**ЛЕЎ.** Пастарайцеся менш выказваць эмоцый і паказваць слабыя бакі. Ворагам гэта будзе на карысць, а блізкія людзі ўсё роўна нічым не змогуць дапамагчы. Чакаецца грашовае папаўненне.



**ДЗЕВА.** У гэты перыяд не атрымаецца быць у адзіноце і застацца сам-насам. І рабочыя, і дамашнія пытанні будуць патрабаваць працы ў камандзе. Важныя рашэнні прымайце самастойна і не спяшайцеся.



**ШАЛІ.** Няпросты дзень для завязвання кантактаў і падтрымлівання сувязі. Тым не менш, якраз гэтага ад вас будзе патрабаваць сітуацыя. Так што прыгадайце ўсе свае навыкі абаяння і прыцягвання ўсмешак.



**СКАРПІЁН.** Будзе адчувацца, што ўнутраны стан будзе перашкаджаць сабрацца і зрабіць усё так, як мае быць. Тут дапаможа толькі шчырая гутарка з тымі людзьмі, якія кранаюць ваша сэрца за самыя далікатныя струны.



**СТРАЛЕЦ.** Важна вельмі дакладна трансляваць усе думкі, якія захочаце агучыць. Недакладнасці могуць справакаваць хвалю негатыву і нават прывесці да заўважных памылак.



**КАЗЯРОГ.** Ваш энтузіязм будзе зараджаць і ўсіх вакол. Прыемна тое, што такі настрой дапаможа ўсім – і вам, і тым, каго заразіце.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас будзе вельмі лёгка раніць, але майце на ўвазе, што гэта калі і будзе мець месца, то ненаўмысна. Пастарайцеся быць цярплівымі да легкадумства іншых людзей у словах.



**РЫБЫ.** Будзе цяжка прыняць рашэнне, якое будзе ўплываць і на вас, і на блізкіх. Не спяшайцеся. Ацаніце практычныя бакі варыянтаў, а таксама ваш асабісты камфорт. І рашэнне стане відавочным.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | | 8 | | | 2 | |
| | 1 | | 7 | 5 | | | 6 | |
| 4 | | | | | 9 | | | 8 |
| | 4 | 5 | 1 | | | | | |
| 2 | | | 4 | | | 5 | | |
| 1 | | 6 | | | | 7 | | 2 |
| 7 | | | | 6 | 3 | 2 | | |
| 3 | | 8 | | | | | | 4 |
| | 6 | | | | 7 | | | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# Ласункі навучэнцаў адзначылі на выставе «ПрадЭкспа-2020»

МАЛАДЗЕЧНА

**У рамках выставы-кірмашу «ПрадЭкспа – 2020» адбыўся конкурс кандытарскага майстэрства «Кандытар года-2020».**



Фота uomoik.gov.by.

Адна з пераможцаў – Валерыя Іванова.

Навучэнцы і майстры вытворчага навучання ўстаноў прафесійнай адукацыі Мінскай вобласці на суд міжнароднага журы прадставілі конкурсныя працы ў васьмі намінацыях. Сярод пераможцаў ёсць навучэнцы Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа.

Сярэбраныя медалі атрымалі **Анастасія Уладыка** – у намінацыі «Цукровыя кветкі» і **Валерыя Іванова** – у намінацыі «Пасцілаж».

А яшчэ ў навучэнцаў з Маладзечна – чатыры «бронзы». Узнагароды ўручылі **Аліне Палавінскай** – за пернікі, **Анастасіі Грыбовіч** – за цукровыя кветкі, Валерыі Івановай і **Максіму Артамонаву** – за пасцілаж.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- «Горад пачаў раптам будавацца, як не будаваўся за ўсю сваю гісторыю. Кожны дзень перавозяць сюды апусцелыя асадніцкія ды панскія асабнякі. Трэба было б некаму запісваць і ўчарашні, і сённяшні дзень Вілейкі...». Так пісаў у 1939 годзе Максім Танк. Згодна з некаторымі дакументамі, сёлета горад адзначае 560-годдзе. Прыгадаем гісторыю Вілейкі разам са спецыялістамі мясцовага музея.

## 21 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, *3*-4 м/с





### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -20,4°C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +10,4°C у 1996 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,1 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Ужо можна падпісацца на першае паўгоддзе 2021 года!

**Вы таксама можаце аформіць падпіску на папяровую «Рэгіянальную газету» на снежань.**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканўйце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58,
- на шэсць месяцаў – 31.14 / 23.16.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17,
- на шэсць месяцаў – 101.94 / 92.34.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як ставіцеся да масачнага рэжыму?



**Мікалай:**
– Нармальна да гэтага стаўлюся. Трэба будзе насіць маску ў памяшканнях, дзе шмат людзей, але на вуліцы не трэба.



**Валер:**
– Нармальна, мяне не напружвае. Калі так трэба для бяспекі, то я не супраць.



**Наталля:**
– Добра стаўлюся, гэта трэба, у мяне таксама ёсць маска.



**Святлана:**
– Станоўча. Трэба ўводзіць, бо зараз такая захваральнасць вялікая. Асабліва ў месцах, дзе шмат людзей, у крамах.



**Андрэй:**
– Ніяк да гэтага не стаўлюся. Не думаю, што гэта дапамога. Кожны чалавек абавязаны сам лячыцца, увядзенне гэтага рэжыму хутчэй палітыка.



**Мікіта:**
– Я добра стаўлюся. Даўно трэба было ўвесці, каб выконваць усе меры засцярогі і бяспекі. Я цалкам з гэтым згодны, правільна ўсё робяць.



**Юры:**
– Ужо позна. Маскі працуюць, калі іх носяць. Масачны рэжым будзе працаваць, калі будзе давер да органаў, якія гэтыя захады і нормы прапануюць. Сумняваюся, што пасля заяў пра псіхоз, ёсць давер. Няма ўпэўненасці, што цяперашнія нормы накіраваныя на бяспеку людзей.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату A2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1334) 20.11.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1950. Падпісана ў друк у 9.00 19.11.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.